# Сяляне, вучэцеся працаваць над с.-г. кнігаю і часопісьсю „Плуг“.

**На падаконьніку сялянскай хаты павінна быць сельска-гаспадарчая кніга і часопіс «Плуг».**

**Выпісвайце і чытайце «Плуг». Кніжка—танны спосаб навучыцца гаспадарыць па культурнаму.**

Мала селяніну пералістаць нумар «Плуга» і што-небудзь прачытаць, а трэба, прачытаўшы добра падумаць, як гэта новае ці карыснае правесьці ў сябе ў гаспадарцы, у пасёлку, таварыстве і г. д.

Часопіс «Плуг» вядзе ўпартую працу над перабудовай старой трохпалёвай гаспадаркі на гаспадарку даходную і культурную, якая выбірае сабе шлях машынізацыі, палепшанай тэхнікі і арганізацыі, шлях коопэраваньня.

Часопіс змагаецца за пашырэньне шматпольля, коранплодаў, кармовых траў, вывучае спосабы разьвіцьця жывёлагадоўлі, садоўніцтва, пчалярства, высьвятляе пашырэньне працы на балотах.

Напрыклад, у мінулым годзе № 5 «Плуга» за май м-ц на палову быў прызначаны пытаньням пашырэньня кармовай плошчы і барацьбе з бяскорміцаю. Шмат сялян выкарысталі гэтыя парады «Плуга», але многа было і такіх, якія толькі па агранамічнай няпісьменнасьці яшчэ лішні год на сваёй скаціне ўбачылі зубы бяскорміцы.

Зусім іншае было-б, каб матар'ял «Плуга» хоць на палову быў распрацаваны ў кожным с-г. гуртку, хаце-чытальні, аграномам на с-г. курсах, а настаўнікам у вясковай школе на адным-двух комплексах. Тады правільней запрацавалі-б фабрыкі селяніна—р а с ь л і н а і ж ы в ё л а.

Самастойна працаваць з с-г. кнігай пакуль што могуць толькі тысячы маладых гаспадароў. А трэба дапамагчы кожнаму селяніну зацікавіцца с-г. кнігай і навучыць яго карыстацца с-г. часопісьсю, каб кожны быў на ўзроўні с а м а й ш ы р о к а й р э а р г а н і з а ц ы і с е л ь с к а й г а с п а д а р к і м е р а п р ы е м с т в а м і Дзяржвы.

Рэдакцыя «Плуг» са шчыраю просьбай зьвяртаецца да перадавых сялян, сялянскага актыву-моладзі, сялян-дасьледчыкаў і культурнікаў, вясковых настаўнікаў, хат-чытальняў, с-г. гурткоў, шэфскіх арганізацый, палітасьветных устаноў, аграномаў, зямельных працаўнікоў і інш. стаць бліжэй да сельска-гаспадарчай кнігі і часопісі і дапамагчы выкарстоўваць іх масаваму сялянскаму чытачу.

Кожны селянін, хата-чытальня, кожны аграпункт, с-г. курсы, вясковая школа, усе мэліарацыйныя, тарфяныя, насенныя, машынныя таварыствы, лясныя працаўнікі, ч ы т а й ц е ч а с о п і с ь «П л у г», п а ш ы р а й ц е п а д п і с к у.

Агранамічныя веды—пэўны фактар у сацыялістычным будаўніцтве і інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі.

**Рэдакцыя.**

Адрас рэдакцыі: **г. Менск, Савецкая, 71.**

1-я дзярж. друкарня. Зак. № 2184. Галоўлітбел № 25507.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ.

Месячная навукова-папулярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня | Май 1927 г. | № 5

## Арганізуйце кармовую плошчу і вырашайце кармовае пытаньне.

Рост нашай сельскай гаспадаркі ня можа быць шпаркім без арганізацыі даходнай малочнай жывёлагадоўлі, бо малочная прадукцыя знаходзіць сабе збыт у першую чаргу. Рост прамысловасьці і гарадоў штогодна будзе яшчэ больш павялічваць попыт на масла, сыр і інш. малочныя прадукты.

Здавалася-б, што пры спрыяючых умовах рынку на гэтыя прадукты павінна шпарка расьці наша малочная гаспадарка; а між тым мы назіраем пакуль што слабы рост малочных арцелей і заводаў для перапрацоўкі малака на масла і сыр (зараз налічваецца 178 заводаў).

Такое слабае разьвіцьцё малочнай гаспадаркі можна тлумачыць толькі недахопам корму ў сялянскай гаспадарцы, без чаго карова ў першую чаргу збаўляе удой малака [1]), а далей і галадае. Іменна з кармовага пытаньня нам і трэба пачынаць разьвіцьцё малочнай жывёлагадоўлі. Яшчэ ня так даўно лічылася, што ў БССР галоўным чынам бывае недахоп спажыўнога корму—мукі, макухі, высевак і сочнага корму—караньплодаў, а гуменнага корму пераважна саломы хапае.

Аднак гэта далёка ня так. Для нашай скаціны, на вялікі жаль, часта не стае нават саломы на корм і асабліва на подсьціл. Прыблізна патрэба ў подсьціле для скаціны ў нас здавальняецца на 37 проц., на столькі-ж забясьпечана і наша поле хляўным гноем (на 37,5 проц.). Так зьвязан запас гною з колькасьцю подсьцілу. Выходзіць, што ў нас і подсьцілу мала і скаціна галодная (на подсьціл ідзе саломы да 34.200 тыс. пуд).

Калі-б сяляне на подсьціл пачалі здабываць торф, то мы адразу павялічылі-б запас гною і захавалі-б частку саломы на корм. Вось чаму зараз селяніну здабыча торфу на подсьціл патрэбна, як паветра. Над гэтым трэба задумацца кожнаму. Трэба разварушыць пахаванае багацьце прыроды—торф.

З другога боку вырашэньне кармовага пытаньня трэба пачаць з арганізацыі і пашырэньня кармовай плошчы; гэта значыць, трэба павялічваць агульны запас корму ў гаспадарцы, а таксама правільна яго скарыстоўваць зімою і летам.

Зараз застановімся толькі на пашырэньні кармовай плошчы. Гэта плошча можа быць пашырана пры культуры балот праз пасеў там пасьля асушкі кармовых траў, бульбы і караньплодаў, а ў першыя гады выка-аўсянай мешаніны. Спробаў і добрых прыкладаў культуры балот было шмат. Кожны селянін пэўна

[1]) Сярэдні удой малака па БССР 59.3 вяд.

бачыў і добрыя ўраджаі на ранейшым балоце. Па Менскай акрузе ў некатэрых мэліорацыйных таварыствах ураджай сена на вырабляных балотах дасягаў 400 пуд. з дзес. або ў тры-чатыры разы акупляў кошт мінэральных парашкоў. Хто-ж ня мае сувязі з балотам, няхай, як належыць, палепшыць сваю сенажаць і бяз сена сядзець ня будзе.

Скарыстаўшы такім чынам прыродныя кармовыя плошчы, трэба арганізоўваць кармовую плошчу і на полі. Тут першай падвалінаю будзе шматпольле з пасевам кармовых траў, бабовых расьлін і караньплодаў. Без пасева гэтых трох груп расьлін (бабовых, асыпных і траў) ня можа быць шматпольля, ня можа быць корму і добрага ўраджаю.

Нашы аграномы ды і сяляне ведаюць шмат прыкладаў, калі гаспадарка пачынала пераход на шматпольле, але адзін-два гады не сеяла траў і шматпольле фактычна варочалася ізноў да старой і галоднай трохполкі. Раней тут перашкодай магла быць адсутнасьць на рынку насеньня канюшыны і караньплодаў. Цяпер-жа гэта насеньне ёсьць ня толькі на рынку, але і ў большасьці сялянскіх гаспадарак ад свайго пасеву. Значыць, патрэбна толькі жаданьне і нейкая руплівасьць гаспадара. Зусім было-б натуральна, каб кожная сялянская гаспадарка ўжо сеяла кармовыя травы і караньплоды пры сялібе ці ў полі.

Што належыць да спажыўнога корму—макухі, высевак, мукі, зярна, то гэты корм у гаспадарцы лепш запасаць з восені. Напрыклад, за мінулую зіму па БССР было раскуплена 950 тыс. пуд. вотруб'я і 205 тыс. пуд. макухі; уцягнута сюды да 28 проц. сродкаў насельніцтва, а рэшта займае крэдыт.

Важнай справай у кармовым пытаньні трэба лічыць і добрыя выпасы для кароў. Пры дрэннай пашы скаціна без пары паядае запасы зімовага корму. Загэтым, і на арганізацыю выгана патрэбна зьвяртаць увагу, каб скаціна ад вясны і да познай восені мела зялёны корм.

Пры жаданьні і тут можна знаходзіць спосабы. Пасеў пры сялібе невялікага вучастку азімай выкі з жытам дасьць самы раньні зялёны корм. Далей, раньні пасеў выка-аўсянай мешаніны ў папары і позны, як пажніўнай расьліны, дадуць зялёны корм летам і позна восеньню. Шмат дапамагае селяніну таксама падсеў пад жыта сэрадэлі ці турнэпсу. Гэтыя расьліны будуць добрым выпасам, а то кормам на зіму. Таксама трэба паляпшаць і прыродныя выганы ці асушкай ці распашкаю на адзін-два гады з пасевам траў.

Як практычна правесьці ўсё гэта ў жыцьцё, парады можна знайсьці ў часопісе «Плуг». Трэба толькі пачытаць, падумаць і штонебудзь зрабіць.

Адным словам, далей не павінна галадаць наша скаціна, бо здабываць корм ёсьць шмат магчымасьцяй. Савецкая Ўлада штогодна прымае шырокія крокі па выкарыстаньню балот, пашырэньню шматпольля, пасеву траў, караньплодаў і г. д. Патрэбна толькі больш сялянскай актыўнасьці. А будзе корм (спажыўны, сочны і гуменны)—значна ўздымецца і малочная гаспадарка: шырэй запрацуюць сыраварна-масладзельныя заводы, з'явяцца лішкі малака на рынку.

Больш увагі да арганізацыі кармовай плошчы!

Больш сеяных траў і караньплодаў!

Шырэй скарыстаньне балот і торфу!

**С. Тупяневіч.**

# Палявая гаспадарка

## Як шматпольле замяніла трохполку.

*(З жыцьця в. Скобраўкі, Меншчына).*

Хто чытае кніжкі па сельскай гаспадарцы, хто вядзе гутаркі з аграномамі і асабліва хто пры гэтым знаём з наладжанай гаспадаркай, той ня стане пярэчыць, што галоўным віноўнікам заняпаду гаспадаркі зьяўляецца старая дзедаўская трохполка, якая ў шмат якіх сялян і цяпер яшчэ жыве.

Трохпольле—аджыўны спосаб вядзеньня палявой гаспадаркі. Трохпольле—галоўная прычына малых ураджаеў. Трохпольле не дае хлебаробу выбіцца з бяды і голада. Не дарма трохпольле завуць галодным севазваротам. Можна ўпэўнена сказаць, што да тато часу, пакуль будзе жыць трохпольле, сялянская гаспадарка як сьлед палепшыцца ня можа. Таму, хто хоча паставіць гаспадарку добра і забыць голад, павінен скарэй пакончыць з трохпольлем і перайці на шматпольле з пасевам траў, бульбы і каранѳплодаў.

Возмем за прыклад вёску Скорбаўку Пухавіцкага раёну (Меншчына). Трохпольле і няўмелая апрацоўка глебы пераходзіла тут з пакаленьня ў пакаленьне, і давялі вёску да заняпаду. Ураджаі палёў і сенажацяй страшэнна зьменшыліся. Хлеба і кармаў для скаціны не хапала да новага ўраджаю. Голад і нішчата з кожным годам расьлі.

Выбіцца з бядоты памагла канюшына, якую сяляне сталі сеяць на сваіх палёх. Пачалося гэта з вёскі Скорбаўкі. Перадавыя сяляне гэтае вёскі сказалі, што трэба кінуць трохпольле і перайці на 4-хпольле з пасевам канюшыны. Доўга абгаворвалі гэту справу і ўсё-ж такі перайшлі на чатырохпольле.

Гэта было ў 1906 г. Купілі насеньня канюшыны і пасеялі яго. Сяляне ваколічных вёсак перш сьмяяліся над Скабраўчанамі і казалі, што ў іх будзе дрэннае жыта. Але ўсё-ж такі гэта ня спраўдзілася. Першы ўкос канюшыны даў 250 пуд. з дзес. Далей першы ўраджай жыта па канюшынішчы даў павялічэньне.

Новая справа апраўдала сябе. За Скобраўкаю пашлі і ваколічныя вёскі—Крупка і інш. Убачылі сяляне, як сельская гаспадарка Скобраўкі стала паляпшацца, бо канюшына дае шмат выгад і павялічэньне корму для скаціны; селянін можа трымаць замест аднае каровы 2—3. Гэта дало ў гаспадарцы гною больш і дазволіла лепш угнойваць поле. У вёсках зьявіліся малатарні, сартоўкі і інш. с.-г. машыны. Пачалі лепш апрацоўваць глебу і пад другія расьліны. Пачалі араць рана на зіму, і араць ад 3½ да 4 вяршкоў.

А ўсё гэта павялічыла ўраджай жыта да 80 пуд. і аўса да 90 пуд. з дзес. замест ранейшых 40—50 пуд. Значная плошча займаецца цяпер пад бульбу і лён, што дае прыбытак у гаспадарцы.

Сяляне, ламеце трохпольле канюшынаю. Трохполка вядзе гаспадарку да згубы і голаду.

Сел. **А. Карнейчык.**

---

# Недахопы нашых севазваротаў[1].

Вывучаючы шматпольныя севазвароты ў Віцебскай акрузе, я заўважыў, што некаторыя гаспадары ня прытрымліваліся таго чаргаваньня расьлін, якое выстаўлялася аграномам. Лік-жа палёў быў захованы. Напрыклад, у сяміпольі: папар, жыта, бульба, ярына, канюшына, канюшына, лён—апошняе поле было занята лёнам саўсім мала, а на большым кавалку сеялася ярына. Альбо ў дзевяціпольным севазвароце: папар, жыта, канюшына, канюшына, лён, папар, жыта, бульба, ярына—зьмены 5, 8 і 9 былі заняты ня тымі расьлінамі, якія паказаны ў севазваротнай табліцы.

Ці гэта тлумачыцца тым, што аграномы няўважліва вывучаюць умовы нашага гаспадараньня, ці можа гаспадары самі ня трымаюцца заведзенага парадку.

Больш глыбокі падыход да справы паказвае, што прычынай гэтаму служыць не агроном і не гаспадар, а тыя умовы, у якіх жыве наша сялянства: яны галоўным чынам залежаць ад рынку. Зрабіўшыся больш таварнай, гаспадарка селяніна зьвязалася з рынкам і знаходзіцца пад яго уплывам. Каб рыначныя умовы менш мяняліся, то гэта-ж прыметна было-б і на сялянскай гаспадарцы. Але-ж мы бачым, што цэны на розныя продукты штогод мяняюцца. Ясна, што і селяніну прыходзіцца штогод прыстасоўваць да гэтых зьмен і сваю гаспадарку, і ў першую чаргу—севазварот.

З гэтага відаць, што нельга патрабаваць ад селяніна, каб ён дакладна выпаўняў табліцу данага яму севазвароту. Трэба, каб быў захаваны агульны лік палёў у севазвароце, бо нявытрыманасьць тут зблытае ўсю сыстэму і ясна прынясе шкоду.

Чаргаваньне-ж расьлін можна рабіць трохі інакш; значыць можна рабіць зьмены, але абавязкова захоўваць канюшынныя зьмены, як аснову севазвароту. Праўда, некаторыя сяляне агранамічна несьвядомы і могуць нарабіць прыкрых памылак у чаргаваньні расьлін. Каб гэтага ня эдарылася, трэба, каб у табліцах севазваротаў, якія агроном дае селяніну, калі пераводзіць яго гаспадарку на шматпольную, было паказана, на якім полі і якою расьлінаю можна замяняць адну другою, калі гэтага вымагаюць умовы. Гэта дасьць магчымасьць селяніну, не парушаючы правіл плодазьмену, прыстасоўваць сваю гаспадарку да патрэб рынку.

Перамяняць адну расьліну на другую будзе тады больш магчымасьцяй, калі больш расьлін будзе ўваходзіць у чаргаваньне. Напрыклад, васьміпольны севазварот дае больш прастору гаспадару мяняць расьліны, чым шасьціпольны.

---

[1]) **У парадку абгавораньня.**

Пытаньні, як лепш замяняць адну расьліну на другую, павінны вывучаць аграномы і вопытныя станцыі. Асаблівая асьцярожнасьць трэба пры складаньні агульнага севазвароту для цэлага пасёлку ці вёскі, бо тут справа пастаўлена вельмі дрэнна. Скласьці севазварот, які-б мог здаволіць некалькі вёсак розных (рознастайных) па сваёй гаспадарчай пабудове, трудна. Няўмела абраны агульны (пасёлкавы) севазварот, часамі перашкаджае пашырэньню інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, а часамі служыць прычынай заняпаду шматпольля на пасёлках. Яшчэ ў тых раёнах, дзе сельская гаспадарка носіць характар спажывецкі, агульны севазварот можа захавацца. Але там, дзе сельская гаспадарка носіць таварны характар, гэта значыць, дзе яна цалкам залежыць ад рынку, там агульны севазварот можа ўводзіцца толькі тады, калі склад гаспадарак пасёлка аднолькавы—маюць больш-менш аднолькавы капітал і аднолькава забясьпечаны рабочай сілай.

Ва ўсіх-жа іншых выпадках севазвароты трэба такія складаць, каб лік палёў быў аднолькавы, але трэба рабіць такое чаргаваньне, каб паасобным гаспадаром можна было пераменьваць адну расьліну на другую і тым самым ня зьвязваць іх ініцыятывы. Калі-ж гэта так, то севазвароты ў самых пасёлках павінны быць больш доўгімі, чым севазвароты паасобных гаспадарак.

Складаньне правільных пераходных табліц севазваротаў, як агульна-пасёлкавых, так і для паасобных гаспадароў зьменшыць самавольныя зьмены, якія сяляне робяць пад напорам рынку, часамі няправільна адносна плодазьмену.

**Агранам П. Гавака.**

---

# Як садзіць кармовыя буракі.

У нас у Фатыні зямля дрэнная—бедныя суглінкі. Ярына родзіць па большай часьці слаба. Каб карміць сьвіней і кароў, заўсёды прыходзіцца шмат сеяць кораньплодаў.

З кармовых буракоў мы лічым найлепшым сорт «Вільямс.» Насеньне яго я палучыў ад Іванова з Растова на Дану. Яно з надворнага выгляду падобна да насеньня Экендорфскіх чырвоных буракоў. На расаду мы іх высяваем у пачатку красавіка месяца разам з капустай і бручкай. Звычайна кармовыя буракі «Мамут» і паўцукровыя ружовыя перасаджваць нельга; іх трэба проста садзіць у глебу.

У мінулым годзе нам удалося палучыць вельмі добры ўраджай буракоў, пасеяўшы іх на канюшынішчы. Рана вясною канюшынішча, пасьля двухлетняга карыстаньня, было ўзарана і зараз-жа забаранавана. Праз невялікі час навазілі гною, зааралі і зараз-жа забаранавалі. Пакуль бурачная расада вырасла, глеба добра падрыхтавалася да пасеву. Пасаджана было $\frac{3}{4}$ дзес. буракоў у полі (апрача гароду). Буракамі кармілі сьвіней і дойных кароў.

Цяпер у гадоўлі буракоў ёсьць у нас пэўная практыка, чаму я і хачу пазнаёміць з гэтым чытачоў «Плуга».

На звычайна падрыхтаванай зямлі (ў полі), зааранай і забаранаванай—сахою робяцца гранкі ці барозны на вярш. 2 вузей, як на бульбу. Канчаткова гранкі рыхтуюцца да пасадкі драўлянымі граблямі з жалезнымі зубамі (на 6 зубоў).

Расаду буракоў лепш садзіць пад вечар і зараз-жа пасьля пасадкі трэба паліць, а раніцаю расадзінкі прыкрыць травою, крапівой ці асакою. Праз дзён 3-5, калі калівы прыжывуць, траву можна паздымаць. Пакрываць травою трэба таму, што накрытая зямля даўжэй застаецца мокрай і расьліна лепш прыжыве. Часамі ў полі прыходзіцца садзіць цэлы дзень (калі шмат расады) у сухую ветраную пагоду (напрыклад, у пачатку чэрвеня м-ца). Тут прыходзіцца працаваць трошкі іначай. Перш за ўсё павінна быць жвавасьць у рабоце. Калі поле падрыхта-



Садзільнік для пасадкі буракоў расадаю.

вана, расаду трэба вырваць і палажыць у цень дзерава ці пад навес, каб не засохла карэньне. Расаду так рыхтуюць да пасадкі. Бяруць у рукі штук дваццаць расады, падраўноўваюць і трошкі падрэзваюць даўгаватыя карэньчыкі, альбо зрэзваюць ліст напалову даўжыні і зараз-жа абмакаюць карэньні ў раствор гліны з сьвежым кароўім калам і кладуць у невялікія кошыкі і пасьля садзяць.

Гранкі перад пасадкай раўнуюць і згладжваюць граблямі і зараз-жа садзільнікам робяць дзірачкі для пасадкі буракоў. Адразу робіцца сем дзірачак. Дзеці ідуць з кошычкам, кладуць каля кожнай дзірачкі расадзіну (каліва). За дзецьмі ідуць і садзяць бурачкі. Хто садзіць, той мае невялічкі кіёчак, даўжыні вярш. 5 і адну цаль таўшчынёю, завостраны клінком. Звычайна ўсадзіўшы садзільнік у зямлю, яго трэба паварочаць управа і ўлева, каб пашырыць ямачкі і асьцярожна выняць, каб іх не засыпаць. У зямлю садзільнік звычайна садзіцца нагою і апрача ямачак ён паверсе грэбня робіць яшчэ і маленькую баразёнку, так што пры паліўцы вада трымаецца паверх гранкі. Пасьля пасадкі зараз-жа робіцца паліўка з леек, якія маюць даўгаватыя сіцечкі.

Прыжывае расада хутка. Садзячы буракі барозны затоптваюцца, чаму першы раз іх можна ўзрыхліць конным культыватарам, а другія разы—асыпнікам. (Пабудаваньне садзільніка паказана на малюнку).

Апісаньне садзільніка для пасадкі кармовых буракоў і бручкі. Ім-жа меціць зямлю, дзе садзіць цыбулю і фасолю.

Кожная клетачка лічыцца за 1 вярш.

Даўжыня дужкі (з лазы ці з арэшніка) $2\frac{1}{2}$ аршыны.

Даўжыня зуба $2\frac{1}{2}$ вярш. Таўшчыня зуба 1 цаля ці паўвяршка. Зубы добра рабіць з яблыні ці клёна. Лепш адтачыць на такарным станку, бо да гладкага дзерева не прыстае зямля. Таўшчыня бруска 1 вярш. у квадраце.

Зуб ад зуба 5 вярш. (на бедным суглінку).

Калі ў бруску пракручаны дзіркі, то ніжнія канты бруска трэба зрэзваць рубанкам. Гэта робіцца затым, каб брусок лепш уваходзіў у гранку; на версе яе робяць маленькую баразёнку для затрымліваньня вады.

**Я. К. Мароз.**

Фатынь, п/а. Бачэйкава.

# Як сеяць бручку.

Пасевамі караньплодаў я ўжо займаўся даўно. Сеяў кармовую моркаў розных сартоў, ставіў вопыты з турнэпсам, бручкай і буракамі. Нарэшце я даведаўся, што самая непераборлівая і выгадная расьліна з караньплодаў гэта—кармовая бручка. Гэту расьліну і блаха не паядае, як турнэпс, і яна лягчэй мірыцца з нядобра ўгноенымі глебамі, у нашых умовах (глебавых і кліматычных); бручка лёгка дае 2.000 пуд. на дзес. Бручка ня так пераборліва на глебу, як буракі і расада бручкі лепш прыжывае, чым буракі.

Бручку выгадна разводзіць і таму, што дзе ня ўродзяць буракі, там уродзіць бручка; дзе паесьць блаха турнэпс, там бручка ўцалее; дзе морква на дзесяціну дасьць 1.300 пудоў, там бручка дасьць 2.000 пуд.

Догляд-жа бручкі будзе каштаваць менш, як морквы, якую трэба 2 разы палоць, а бручка калі прыкрые зямлю лістамі, то ёй ніякая сорная трава ня страшна.

У час прыборкі тры падзёншчыцы, выбіраючы бручку, зробяць столькі, колькі 15 падзёншчыц на моркве. Пробныя боразны бручкі, сеяньня летам 1926 г., у мяне далі такія вынікі: 1) Бручка, сеяная машынай «Плянэт», з аднае баразны даўжынёю ў 110 крокаў дала—11 пуд. карэньня і батвы 2 п. 12 ф.

2) Бручка саджалася расадай і з такой-жа баразны ў 110 крокаў дала 19 пуд. 14 ф. карэньняў і 3 п. 17 ф. батвы.

3) Морква кармовая (белая зелёнагаловая), сеяная машынай «Плянэт» нямочаным насеньням, з такой-жа баразны (110 крокаў) дала карэньня 4 п. 16 ф., батвы 2 п. 4 ф.

4) Ураджай морквы (белай зялёнагаловай) у другім месцы, сеянай на баразьне ў 72 крокі даўжыні, дала карэньняў 5 пуд. і батвы 2 п.

5) Ураджай морквы «Ярнім-Крывенскай» з тае-ж баразны (72 кр.) даў 5 пуд. 15 фун. карэньня і 1 п. 23 ф. батвы.

Захапіўшыся раней пасевам морквы, я абышоў ёю ўсе зьмены поля і шмат прайграў, што сеяў моркву, а ня бручку. Я згаджаюся, што на добра ўгноеных глебах даюць вялікі даход буракі, але мая гаспадарка заснавана ў 1918 г., поле яшчэ пуставатае, і я буракоў пакуль што ня сею.

Добра мець рана пасеяны турнэпс, каб яго пусьціць на скорм каровам раньняй восеньню і ў канцы лета, але ня шмат.

Усякая расьліна добра на сваім месцы і ў свой час. Гэта-ж пацьвердзіла і Віцебская вопытная станцыя, дзе быў пастаўлен вопыт з буракамі і бручкай на звычайным полі племхоза «Падбярэзьзе». Віцебская станцыя прышла к выніку, што на гароднай ўгноенай глебе буракі ўраджайней, а ў поліяны патрабуюць добра апрацованай і ўгноенай глебы; іх лепш сеяць на гародных і прысялібных землях. («Плуг» № 3, старонка 13).

Сел-даследчык **М. Зьвераў.**

---

# Яшчэ аб караньплодах.

*(Ліст у рэдакцыю).*

У артыкуле Зьм. Прышчэпава («Больш сялянскай актыўнасьці» «Плуг» № 3, 1927 г.) адзначана, што да гэтага часу культура кармовых караньплодаў была ў загоне і, на жаль, нашы аграномы не зьвярталі увагі на яе пашырэньне.

Посьпехі апошніх гадоў разьвіцьця кармовых караньплодаў у сялянскіх гаспадарках, а таксама і лік закладзеных паказальных вучасткаў з караньплодамі сьведчаць аб адваротным. Напрыклад, у Вузьдзенскім раёне з 22 паказальных вучасткаў у 1925 г. пад караньплодамі было 9 вучасткаў. У 1926 г. з 37 паказальных вучасткаў пад караньплодамі было 16 і два паказальных гароды, дзе караньплоды займалі большую палову ўсяго гароду.

Ураджай паказваю ў пудох з дзесяціны.

| Гады | Буракоў | Морквы | Турнэпса |
|---|---|---|---|
| 1925 | 2000–3500 | 2200–3000 | 2300–3000 |
| 1926 | 2000–5000 | 1800–4080 | 1500–4800 |

Паказальныя вучасткі значна ўскалыхнулі сялян і ў 1926 г. у параўнаньні з 1925 г. засеў кармовых караньплодаў павялічыўся ў 4—5 разоў, а агульная плошча ў Вузьдзенскім раёне дасягнула да 60 дзес. У некаторых вёсках Вузьдзенскага раёну, напрыклад, у в. Нізку, Бярвішча, Хіроміцкія, Боркі і інш., караньплоды пачалі выходзіць на палявыя палеткі. Шмат можна знайсьці такіх гаспадарак, у якіх караньплоды для малочных кароў былі амаль да канца зімы.

У мінулую вясну 1926 г. распрадана насельніцтву Вузьдзенскага раёну каля 300 кілё рознага насеньня кармовых караньплодаў.

На ўсіх с.-т. выстаўках у дзень «Сьвята Ураджаю» ў апошнія гады караньплоды займаюць самае першае і значнае месца. Гэта зьявішча не патрабуе довадаў.

На ўсіх агранамічных лекцыях і гутарках, як на курсах, таксама і на агульных сходах пры вырашэньні кармовага пытаньня, кораньплоды заўсёды займаюць найбольш часу і увагі. На с.-г. курсах у мінулую зіму ва ўсіх вёсках аб культуры кораньплодаў праведзена па тры лекцыі.

Часопіс «Плуг» на сваіх старонках кожнага нумара праз сялян дасьледчыкаў і аграномаў даволі шмат высьвятляе тэхнічныя прыёмы культуры і пытаньні пашырэньня кармовых кораньплодаў. Напрыклад, у 12 нумары «Плуга» за 1926 г. надрукаваны артыкул «Да пытаньня аб насеньні кораньплодаў», дзе аграномы занепакоены нястачаю насеньня кораньплодаў для далейшага іх пашырэньня.

У бягучым годзе адносна насеньня шмат што будзе зроблена. Напрыклад, насеньнікі ў Вузьдзенскім раёне ўнесены ў плянавыя агранамічныя мерапрыемствы.

Але зусім зразумела, што да гэтага часу далёка не ва ўсіх сялянскіх гаспадарках кораньплоды адваявалі сабе патрэбнае месца, хаця глеба для іх пашырэньня падрыхтована. Патрэбен толькі час і насеньне. Актыўнасьць-жа сялянства ў гэтым кірунку ёсьць, хаця пажадана яе больш.

Хутка ў сялянскай гаспадарцы кораньплоды стануць роўнапраўнай расьлінай з іншымі. Усе аграномы і значная частка сялянства зразумелі, што разьвіцьцё і пашырэньне малочнага жывёлаводзтва ня можа быць без культуры кармовых кораньплодаў [1]).

Аграномы { **П. Ляневіч.** **М. Іарданскі.**

(Вузьдзенскі раён)

---

# Сейце ў папары яравую выку.

Нястача корму—гэта першы вораг і прычына малой ураджайнасьці нашых палёў. Ад нястачы корму скаціна часта здыхае, бывае заняпалай і дае малыя удоі (50-60 вёдзер малака ў год).

Выкавае сена зьяўляецца вельмі пажыўным кормам. Так, напрыклад, пуд выкавага сена па пажыўнасьці раўняецца двум з паловаю пудам жытняй саломы, двум пудам яравой саломы (аўсянай, ячменнай і пшанічнай) і паўтара пудам добрага мурожнага сена.

Апрача таго, пасеў выкі на папары дае глебе адну з важных пажыўных матэрый для расьлін, так званы азот, які выка набірае з паветра.

Загэтым, замест таго, каб пакідаць папар чыстым, пасьвіць на ім скаціну, лепш займаць яго пасевам выкі на зялёны корм або сена.

Каб атрымаць добры ўраджай выкавага сена, поле пад выку трэба своечасна вырабіць. І таму тут важна, каб пасеў выкі ў севазвароце ішоў за збожжавай расьлінай, якая рана прыбіраецца з поля. Поле пад выку зараз-жа пасьля прыборкі ўраджаю павінна быць мелка ўза-

---

[1]) Названы артыкул т. Прышчэпава не пярэчыць тэй думцы, што ў апошнія два гады з кораньплодамі мы пасунуліся наперад. І гэта добра. Аднак і лепшы Вузьдзенскі раён у 1926 г. мае яшчэ толькі 60 дзес. кораньплодаў на якія-небудзь 6000 гаспадарак (24 кв. с. на адну), што, вядома, далёка да нормы. *(Рэд.)*

рана плугам, многалямешнай скорапашкай ці інш. Праз тыдзень або паўтара ральлю трэба паскародзіць. Тыдні праз два пасьля гэтага кладзецца гной, які заворваецца на поўную глыбіню і так пакідаецца на зіму.

Выробленае такім чынам з восені поле, вясною трэба толькі паскародзіць, выраўняць і засяваць выкаю. Калі-ж ральля з зімы вышла цьвёрдай, то поле трэба пераараць вясною. Раіцца ў такім выпадку ўзорваць поле на сярэднюю глыбіню (3-4 вярш.).

Выку сеюць на зялёны корм і сена ў мешаніне з аўсом, ячменем, а то і з прыбаўкай невялікай часткі гароху.

Пры пасеве на зялёны корм і сена даволі 7-8 пуд. выкі і 4-5 пуд. аўса на дзес.

Выка не баіцца вясеньніх прымаразкаў і таму яе можна і трэба сеяць як найраней, дзеля таго, каб можна было хутчэй прыбраць з поля і тым самым даць магчымасьць своячасна вырабіць поле пад азіміну.

Дзесяціна добра выробленага пад пасеў выкі поля можа даць 150-200 пуд. пажыўнага выкавага сена.

**А. Сянькевіч.**

---

# З палявых вопытаў у Стара-Барысаве.

На вопытным полі с.-г. тэхнікуму вяліся досьледы над рознымі папарамі. Паказваю ўраджай жыта па розных папарах.

З гэтага мы бачым, што гной на шмат павялічвае ўраджай азімага жыта. З якога-б м-ца поле ня было ў папары, мы бачым, што гной павялічвае ўраджай у 2 разы. Сялянскай гаспадарцы трэба берагчы кожны пуд гною і як-мага больш зьбіраць яго за зіму. Вельмі карысна запасьціся торфам і пасыпаць сухім парашком з яго ў хляве. Гэта павялічвае запас гною і паляпшае яго якасьць.

З другога боку, мы бачым, што чым раней папар завораны, тым большы ўраджай ён дае. Так, папар з красавіка м-ца ў параўнаньні з ліпнёвым на няўгноеных глебах павялічвае ўраджайнасьць ад 18 да 24 пуд., а на ўгноеных—ад 36 да 47 пудоў.

| ЯКІЯ ПАПАРЫ | 1925 год | | 1926 год | |
|---|---|---|---|---|
| | Папар ня ўгноен. | Папар угноены гноем 2.400 п. на дзес. | Папар ня ўгноен. | Папар угноены гноем на дзес. 2.400 п. |
| Папар з красавіка . . . | 55 п. 10 ф. | 99 п. 06 ф. | 35 п. 08 ф. | 72 п. — ф. |
| „ майскі . . . | 42 „ — „ | 87 „ — „ | 33 „ 20 „ | 85 „ — „ |
| „ з чэрвеня м-ца . . | 38 „ 34 „ | 73 „ 10 „ | 25 „ 24 „ | 53 „ 20 „ |
| „ ліпеня м-ца . . | 31 „ — „ | 51 „ 15 „ | 16 „ 20 „ | 36 „ 10 „ |

Сяляне позна аруць папар затым, што да ліпеня м-ца на ім пасецца скаціна. Калі параўнаць ураджайнасьць папараў завораных у чэрвені м-цы і красавіку, то відаць, што пасьба скаціны сялянам абыходзіцца вельмі дорага. На няўгноеным папары ад 10 п. да 18 п. і на ўгноеным—ад 18 да 26 п. жыта з дзес. Траціць стольні хлеба на дрэнную пашу няма ніякага сэнсу. Сялянская гаспадарка павінна перайсьці на раньнія папары, а скаціны на іх ня пасьвіць. Зрабіць гэта вельмі лёгка. Трэба асушваць балоцістыя землі і закладаць на іх пашы. Вялікую дапамогу мог-бы даць рана засеяны выкавы папар. Па вопытах 1926 г. выкавы папар у параўнаньні з папарам завораным у чэрвені м-цы даў такі ўраджай жыта:

| | | |
|---|---|---|
| Чэрвенскі папар угноены гноем | 53 п. 20 ф. | |
| выкавы папар „ „ | 65 „ 20 „ | |

Выкавы папар даў большы ўраджай, чым позьні сялянскі, на 8 пуд. жыта і 100 пуд. выкавага сена з дзес.

Праўду людзі кажуць, што «чалавека корміць ніва, а ня поле». З тае-ж самае дзесяціны можна атрымаць ураджай і ў 31 пуд. (няўгноены позьні папар) і ўраджай у 99 пудоў (угноены раньні папар). Часамі малазямельле бывае і таму, што ня ўмеюць добра ўрабляць поле і штогод не дабіраюць сотні пудоў ураджаю.

Нашы вопыты паказваюць правільны шлях, каб узьняць ураджайнасьць поля. Папары трэба ўгнойваць гноем, заворваць іх як-мага раней; скаціну на іх ня пасьвіць, асушваючы для гэтага балота. Калі ёсьць гной, то на раньніх папарах карысна сеяць выкавую мешаніну. Гэта дае гаспадарцы шмат корму і мала паніжае ўраджай жыта. Толькі такім чынам можна пазбавіцца малазямельля на Беларусі.

**С. П. Токмачоў.**




## Чым займацца селяніну-дасьледчыку.

Сялянскі досьлед у сельскай гаспадарцы зараз набывае пэўнае значэньне. З адзінак сялян-дасьледчыкаў вырастаюць ужо дзясяткі, а то і сотні перадавых гаспадароў, якія прымяняюць культурныя спосабы гаспадараньня. Не адна сялянская гаспадарка ўжо скарыстала вынікі гэтай працы. Трэба чакаць, што значна шырэй разгорнецца праца сялян-дасьледчыкаў у гэтым годзе, пасьля арганізацыі Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна [1]).

У рэдакцыю «Плуга» некалькі сялян прыслалі нават праграмы сваіх досьледаў (сяляне Я. Судак, М. Тарасенка, К. Запольскі). Адносна гэтых праграм і трэба сказаць некалькі слоў.

Праграмы т. т. Я. Судака, і К. Запольскага ахопліваюць амаль усе галіны сельскай гасп.—палявую гаспадарку (сартовае насеньне, караньплоды, выраб поля, угнаеньне, працу на сенажаці і балоце), жывёлагадоўлю (кармленьне, догляд і парода), сад, агарод і пчалярства.

Апрача таго, селянін Запольскі залічвае ў дасьледчую працу цэлы шэраг культурных прац у гаспадарцы, як догляд за садам, пабудова кармушак і г. д.

Вядома, па ўсіх гэтых галінах сельскай гаспадаркі, што піша Я. Судак, досьледы ставіць можна, але-ж яны будуць не пад сілу і цэлай дасьледчай станцыі. Такая праграма занадта шырокая. Большасьць культурных прац селяніна К. Запольскага можна і трэба ўводзіць у жыцьцё без усякай спробы і досьледа, яны ўжо праверань шмат разоў.

Селянін М. Тарасенка ставіць значна менш пытаньняў для вырашэньня праз досьлед. У яго зьвернута ўвага на культуру балота, караньплоды, сартовае насеньне, травы. Адно, чым і яму можна было-б не займацца—гэта розныя стымулятары роста расьлін.

Справа ў тым, што гэта пытаньне яшчэ спрэчнае. Ёсьць цэлы шэраг навуковых досьледаў, калі хваленае вымачваньне насеньня не павышала ўраджаю (С. І. Жэгалаў).

На мой погляд, селяніну-дасьледчыку ў першую чаргу трэба займацца галоўнымі пытаньнямі, якія маюць выключнае значэньне для сельскай гаспадаркі БССР. Такімі пытаньнямі трэба лічыць культуру

---

[1]) Бюро Сялян-Дасьледчыкаў ужо распрацавала інструкцыю для досьледаў з мінэральнымі парашкамі і ў працы будзе зьвязана з часоп. „Плуг“ і газэтай „Беларуская вёска“.

балота, усебаковае скарыстаньне торфу, пасеў кораньплодаў і траў, сартавое насеньне, пытаньне мінэральных угнаеньняў пад інтэнсыўныя расьліны і г. д.

Лепш браць адну-дзьве тэмы, але правесьці іх дасканала. Вывучаецца ў першую чаргу пытаньне найбольш патрэбнае для свайго раёну і той гаспадаркі, дзе ставіцца досьлед. Вынікі такога досьледа зараз-жа будуць падхвачаны другімі гаспадаркамі.

**С. Т.**

---

# Пасеў гароху разам з аўсом.

*(З уласнае практыкі).*

Гарох мы сеем з 1912 году. Але пасеяны гарох даваў часта вельмі нязначныя ўраджаі зярна, а салома і мякіна ішла ў подсьціл, бо яна гніла разам са струкамі яшчэ на полі. У 1920 г. мы зрабілі досьлед і пасеялі—а) адзін гарох, б) адзін авёс і в) адну дзялянку мешаніны—гарох разам з аўсом. Пасеялі па 1 пуду. Чысты гарох даў ураджай сам 5. 1 пуд чыстага аўса даў сам 4. Пуд гароху і пуд аўса разам далі—гарох сам 9 і авёс сам 6. Дзялянкі былі роўныя—пад аўсом і гарохам па 150 кв. саж. і пад мешанінаю 300 кв. саж. Першыя два вучасткі разам далі ўраджай 9 пудоў, а трэці вучастак даў 15 пуд.

На другі 1921 г. вопыт быў заложаны зноў і вынікі былі амаль што такія-ж. Такім чынам, гарох разам з аўсом даў амаль двайны ўраджай. Ураджай аўса таксама павялічыўся. Цяпер мы штогодна ў гарох падмешваем аўса.

Гарох і авёс даюць добры ўраджай. Мякіна і салома цяпер з гароху ўся страўляецца каровамі, як добры корм. Чым-жа гэта тлумачыцца? На пытаньне адказаць вельмі проста. Як вядома, гарох мае даволі кволыя сьцяблы, і вырасшы, ён вылягае. Дзякуючы гэтаму ніжняе лісьцё гароха падгнівае разам з струкамі. Пасьпявае гарох ня роўна і ўраджай палучаецца меншы. Авёс-жа мае больш устойлівае сьцябло, і для гароху служыць, як-бы падпоркаю. Гарох расьце проста і не вылягае. Сьвету гарох ад аўса не аднімае, а гарох-жа глушыць сорныя травы і прыценьвае глебу. Палучаецца ўзаемнае сажыцьцё карыснае для аўса і для гароху.

У нас заўсёды ўдаецца гарох з аўсом, толькі ў 1921 і 26 годзе ня высьпеў (згарэў) і мы яго скасілі на сена.

На дзес. трэба браць 8 пуд. гароху і 4-5 пуд. аўса. Ураджай палучаецца ў сярэднім ад 60 да 120 пуд. зярна і ў 2 разы больш саломы. Аддзяляць гарох ад аўса ня трэба для ўжываньня ў гаспадарцы, а на продаж, дык яго можна аддзяліць на сартоўцы.

Хто гэтага спосабу пасева не прабаваў, няхай спрабуе. Вынікі будуць добрыя. Гарох на пасеў можна браць шэры ці белы.

**А. Карнейчык.**

(Хут. Сарачынава Пухавіцкі р., Меншчына).

---

# Досьлед з попелам.

У мінулым годзе на сельска-гаспадарчых курсах я даведаўся, што і попел ідзе як угнаеньне. Вось я вясной пайшоў у лес, сабраў там усякіх астач і напаліў попелу, каб знаць якое значэньне мае попел, ці можа ён раўняцца з іншым угнаеньнем і колькі пудоў трэба яго на дзес., каб атрымаць добры ўраджай. Гэтым я зацікавіўся. Дзеля спробы я засеяў бульбу на трох дзялянках: адна дзялянка была з гноем, другая без усякіх угнаеньняў і трэцяя з попелам.

Я разьбіў усе дзялянкі на роўнай пескавой глебе і ўсе дзялянкі былі роўныя па велічыні.

Пасадзіў я бульбу па гнаі і па ўсім дзялянкам аднолькава на кожную дзялянку па 8 пуд. З попелам я садзіў так: наганяў градак, пасадзіў бульбу, пасыпаў попелам і цераз гадзіну засыпаў яе зямлёю.

Вынікі былі такія: тая дзялянка, што была з гноем, дала ўраджай 56 пуд., дзялянка бяз гною і бяз попелу дала 26 пуд., а трэцяя дзялянка, якая была з попелам, дала 81 пуд. Пасадзіў-жа я на ўсіх дзялянках 24 пуды, на кожнай па 8 пуд.

Цяпер буду лічыць, колькі мне каштуе ўсё ўгнаеньне. Попел каштуе 3 руб. і 10 вазоў гною 5 руб., а ўсяго 8 руб., а атрымаў я ўраджаю 163 пуд. бульбы. Адзін пуд каштуе 45 кап. Вось чаму я раю попел з печы заўсёды зьбіраць, як самае добрае ўгнаеньне.

**Сел. В. Місун.**

(В. Янова, Межынск. р.).

---




# Пра „дзень Лесу“.

Надыходзіць вясна. Як і ў мінулыя гады сёлета арганізуецца «Дзень Лесу».

Лясная гаспадарка для Беларусі мае вялікае значэньне і таму «Дзень Лесу» прызнаны народна-рэвалюцыйным сьвятам. У правядзеньні яго павінны прыняць шчыры ўдзел усе грамадзкія і дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі, а таксама ўсе працоўныя гарадоў, мястэчак і вёсак БССР.

Вынікі «Дню Лесу» мінулых гадоў паказалі патрэбнасьць і жыцьцёвасьць гэтага новага сьвята. Аб гэтым сьведчаць усе работы і захады па аднаўленьню лясное гаспадаркі. Былі пазакладаны новыя і дагледжаны старыя сады і паркі. У гарадох, мястэчках і вёсках панасаджана шмат дрэў, паабсаджаны школы, заложаны пітомнікі. Былі праведзены лесакультурныя і лесамэліарацыйныя работы.

Трэба прывітаць нашу моладзь і асабліва ЛКСМБ за іх актыўны ўдзел у правядзеньні сьвята. Камсамольцы ўцягнулі ў гэту работу шмат працоўных гораду і вёскі. Моладзь, якая ідзе нам на зьмену, лепш адчувае і разумее патрэбнасьць беражлівых і ўважлівых адносін да лесу, да зялёнага дрэва; моладзь першая кінула лёзунг берагчы лес: «Умееш лес сячы, умей яго і садзіць!»

Але былі недахопы ў правядзеньні «Дня Лесу» ў мінулыя гады. Іх трэба не паўтараць у гэтую кампанію. «Дзень Лесу» праходзіў добра з'арганізавана толькі ў гарадох; у вёсцы-ж мы гэтага ня бачым. Апрача лясных працаўнікоў, мясцовыя грамадзкія ўстановы, як Райвыканкомы і Сельсаветы, за выключэньнем некаторых у правядзеньні сьвята прымалі ўдзел вельмі слабы. У вёсцы «Дзень Лесу» яшчэ ня меў характару грамадзкага сьвята.

Праграма «Дню Лесу» не заўсёды складалася ўдала. Не хапала пасадачнага матар'ялу, а што і было, то амаль нягоднае. Садзіліся дрэвы нядбайна, абы як. Часамі «Дзень Лесу» праводзіўся тады, калі ня час быў вясьці лесакультурную работу. Гэта галоўныя заганы. Вядома, яны давалі дрэнныя вынікі і ідэя «Дню Лесу» зьневажалася.

У гэтым годзе ў «Дзень Лесу» павінна будзе весьціся, па-першае, лесапрапаганда, а па-другое, пасадка і ачыстка лесу. У правядзеньні сьвята павінны ўзяць удзел усе мясцовыя партыйныя і профэсыянальныя арганізацыі. «Дзень Лесу» павінен праводзіцца па зараней абмяркованаму пляну, дзе прымаецца пад увагу: час, калі праводзіцца сьвята, месца, дзе праводзіцца, якія работы намячаюцца правесьці, хто будзе вызначаны адказным кіраўніком, на колькі падрыхтаваны ўсе ма-

тар'ялы для пасадкі. Перад сьвятам павінна весьціся агітацыйная работа сярод працоўных мас вёскі і гораду, праз мясцовы друк, праз клюбы, нардомы, хаты-чытальні, сходы, лекцыі, гурткі. Трэба ўсім растлумачыць, што:

1) Лес дае вялікія сродкі, каб падняць прамысловасьць краю. Агульнымі сіламі трэба замацаваць лясную гаспадарку і павялічыць яе даходнасьць.

2) Лясы мясцовага значэньня даюць вялікую карысьць гаспадарцы селяніна; яны даюць магчымасьць селяніну палучыць дарэмна некаторую частку лясных матар'ялаў і апалу. Дзеля гэтага трэба берагчы і шанаваць лясы мясцовага значэньня і ня нішчыць іх так, як гэта рабілася за апошнія гады.

Будзем мець надзею, што вясеньняе рэвалюцыйнае сьвята працоўнымі будзе праведзена ўважліва і добра. Кожны можа зрабіць мала, але разам—гэта будзе вялікі скарб у будаваньні сацыялістычнай культуры.

**В. Ткачоў.**

---

# Веснавая праца ў лесе.*)

Веснавыя працы ў лесе маюць сваёй мэтай хутчэйшае аднаўленьне маладога лесу на высечках, а таксама аховы лесу ад магчымай шкоды і догляд за лесам. Усё гэта патрэбна дзеля таго, каб павялічыць прыбытковасьць нашых лясоў, якая параўнаўча з лясамі другіх старонак застаецца занадта нізкай. Сьмела можна сказаць, што пры належным доглядзе лесу ўраджай нашых лясоў можна павялічыць у тры разы;—гэта значыць здымаць драўніны з дзесяціны 75 куб. саж. замест сучасных 25 саж.

Кароткі пералік веснавых прац у лесе наступны:

1) **Ачыстка лесасек і месц высечак.** Гальлё, ламаччо і шчэпкі неабходна сабраць, і ўсё, што можа згадзіцца на дровы, вывезьці і скарыстаць, а непатрэбнае зваліць і спаліць з асьцяротай, каб ня пусьціць па лесе пажар. Самае дробнае гальлё і сьмецьцё раскідаць тонкім слоем на месцы высечкі.

2) **Абгароджваньне лесасек.** Усе лесасекі вясной трэба абгарадзіць, каб на іх не заходзіла скаціна, якая зрывае і дратуе ўсходы дрэўцаў, ад чаго лесасека не аднаўляецца. Платы вакол старых лесасек трэба папраўляць.

3) **Сяўба ляснога насеньня і пасадка** сеянцаў і саджанцаў на тых высечках, якія натуральна не аднаўляюцца.

4) **Пухленьне глебы ў тых** месцах, дзе трэба вызваць самасеў ад прынесенага ветрам насеньня і дзе ў той-жа час плошча надта зьдзерванела.

5) **Зьдзіраньне моху** ў тых мясцох, дзе трэба вызваць самасеў і дзе вельмі тоўстае махавое акрыцьце глебы,

6) **Пухленьне мёртвага акрыцьця,** дзе трэба вызваць самасеў і дзе гэта акрыцьцё глебы вельмі плотнае і настолькі тоўстае, што слабы карэнчык прарастаючага насеньня ня можа прабіцца да глебы. Пульхненьне мёртвага акрыцьця, як пульхненьне глебы і зьдзіраньне моху, павінна адбывацца раней, каб працу тэту закончыць да ападзеньня насеньня,—што для хвоі і елкі ў Беларусі бывае ў маі.

---

[1]) Артыкул друкуецца са скарачэньнем (*Рэд.*).

7) **Праверка і папаўненьне лясных культур** (пасадак) папярэдніх гадоў.

8) **У другой палове вясны збор і сяўба ў гадавальніку ці наогул на градах насеньня таполі, асіны, вярбы і лазы,** калі хочуць мець больш доўгавечныя і здаровыя дрэвы гэтых парод.

9) Да распусканьня пучкоў і паяўленьня лісьцяў нарэзка чаранкоў і кольляў таполяй і вербаў і пасадка іх.

10) **Работы па прачыстцы і прарэджваньню.** Пры гэтым вельмі выгадна выбарка лёгкіх лісьцяных парод з хваёвых і яловых маладнякоў да распусканьня лісьця ці ў пачатку распусканьня яго ў асіны і бярозы.

11) **Акорка бярвеньняў,** што засталіся ў лесе па якім-небудзь прычынам, каб не разводзіць у лесе караедаў.

12) **Закладка прыманачных дрэў** для барацьбы з лубаедамі і караедамі.

13) **Ахова лесасек і маладнякоў ад папасу скаціны.** Вясною папас асабліва шкодзен.

14) **Ахова лесу ад пажару.** У другой палове вясны, як толькі ў лесе прасохне, начынаецца першы пэрыяд частых і вялікіх пажараў.

**Праф. С. П. Мельнік.**



---

# Паляпшайце і скарыстоўвайце плошчы, пераданыя з-пад лесу ў зямельны фонд.

Па ўсяму абшару Беларусі адначасова з выдзяленьнем лясоў мясцовага значэньня праводзілася і перадача шмат якіх лясных плошчаў у зямельны фонд. Нават і па гэты час пры лесаўпарадкаваньні, калі патрабуецца спроставаць межы, некаторыя лясныя вучасткі таксама адсякаюцца ў Земфонд. Вядома, лес на такіх вучастках здымаецца (высякаецца) і яны пераходзяць у карыстаньне сялянства. Пры гэтым маецца на мэце, што гэтыя плошчы будуць скарыстоўвацца сялянамі пад ральлю і сенажаці, а ў выключных выпадках пад пашу; гэта значыць, што яны будуць выгадней скарыстаны, чым тады, калі знаходзіліся пад лесам.

Вось гэта і ёсьць галоўная мэта, з якой рабілася перадача такіх плошчаў у Земфонд. І гэта правільна, бо калі з іх зьняць лес, а пасьля кінуць, то тым самым мы іх зробім яшчэ горшымі, чым яны былі да гэтага часу.

Калі на гэтых плошчах рос лес, то ён даваў некаторы прырост з году ў год і каштоўнасьць яго (часта вельмі малая) ўсё-ж такі расла, а як лес высякаўся, то гэтыя плошчы ўжо заставаліся пусташамі.

Цяпер паўстае пытаньне: у якім-жа стане яны знаходзяцца? Трэба адказаць, што ў дрэнным. Яшчэ тыя кавалкі, што прыпіраюцца к сялянскім палосам і маюць адпаведную глебу, раскарчоўваюцца і засяваюцца; але ёсьць шмат і такіх плошчаў, якія выяўляюць імшары і скарыстоўваюцца без належачых мерапрыемстваў ня могуць: яны патрабуюць перш на перш асушкі, раскарчоўкі, успульхненьня і толькі тады ўжо могуць ужывацца пад ральлю, сенажаць і гарод. Значыць, тут патрэбна значная праца. Вось з гэтых прычын мы і бачым,



што ў большасьці імшарыстыя земфонды прадстаўляюць пустошы, якія ўжо зноў пачынаюць зарастаць хмызьняком. Вось тут і бяда; забыта і мэта, з якой яны перадаваліся ў земфонд—карысьці жаданай няма.

Але як-жа тут быць? А вось, трэба зараз-жа пачаць палепшаньне гэтых плошчаў і скарыстаць іх.

Працаваць-жа тут у адзіночку, мусіць, вынікаў ня будзе. Дзеля такой працы трэба арганізоўвацца ў мэліорацыйныя т-вы, тады лягчэй знайсьці дапамогу, як з боку кіраваньня гэтай працай, так і з грашовага боку, і тады праца пойдзе хутчэй. Трэба ведаць, што мэліорацыйная праца акупіць сябе ў некалькі бліжэйшых гадоў, дасьць добрыя вынікі ў недалёкай будучыне і палепшыць значна дабрабыт гаспадароў. Тады імшарыстая пусташ з-пад высячанага лесу альбо хмызьняку зможа даць прыбытку каля 30 руб., а то і болей з дзес. У год-жа карчоўкі забясьпечаць працаўніка дрывамі (апалам), якія будуць здабыты з карчоў.

У Заходняй Эўропе, як Голяндыя, Нямеччына і інш. краіны, сялянства гэта ўжо даўно зразумела, палепшыла праз мэліорацыйныя т-вы ўсякія няпрыгодныя пустошы і мае з іх вялікую карысьць.

**Т. Гаўрыловіч.**

Нёманскае Л—ва.

---

# Нашы лясныя пароды.

**Бяроза.** Усім вядома беластвольная бяроза. Яна, як сасна, лічыцца вельмі распаўсюджанай пародай. Да глебы бяроза ня вельмі пераборліва і расьце на ўсякай глебе. Корань бярозы вельмі здаровы і многімі сваімі разьвілінамі сьцелецца няглыбока ў зямлі. Але вядома, што на лепшых вільготных глебах бяроза лепш расьце і дае буйнейшы прырост. Баравая бяроза расьце павольна, мае вельмі моцную драўніну і кепска колецца. Разводзіцца бяроза, як паросткамі ад пня, так і насеньнем. Складаючы чыстыя дрэвастаны і ў прымешцы да другіх парод, бяроза шмат прыносіць насеньня, якое далёка разьлятаецца па ветру і першае засяляе высечкі, прагаліны і інш.

Маладыя бярозкі не баяцца вясеньніх прымаразкаў і сонцапёку, чаму дружна растуць. За гэту асаблівасьць лесаводы лічаць бярозу сорнай пародай, а таксама завуць яе «лясным піанэрам». Жыве бяроза 120-140 год., але лепшы час узросту для рубкі 40-50 гадоў; у старасьці бяроза губляе свае добрыя якасьці і пачынае рабіцца крохкай і ня моцнай.

Драўніна бярозы белая, шчытная, цьвёрдая і аднародная настолькі, што нельга адрозьніць абалонных слаёў ад асяродкавых. Усыхаецца бяроза даволі многа—на 5-6 проц.

У сухім месцы бяроза можа ляжаць доўга, але баіцца вільгаці, ад чаго хутка згнівае. Каб прасушыць бярозную драўніну, трэба зараз жа пасьля рубкі зьняць кару. Вырабляецца драўніна ня вельмі добра, але ўсё-ж дае добры і прыгожы матар'ял на мэблі, добра прымае пратраву і палітуру. Бяроза добра точыцца ў такарні, а высахшы даволі моцная, чаму і ўжываецца на калодкі ў колы.

Шмат частак гаспадарчых прылад, як калёс, барон і інш. робіцца з бярозы. Бярозавыя наросты і так званая «чачотка» даюць вельмі

прыгожы ўзор ад пераплеценых валакон, чаму яны ідуць на выраб дарагіх дробных рэчаў.

З бяросты гоняць найвышшы сорт дзёгцю, а таксама плятуць лапці і кошыкі; яна ня гніе і не баіцца вільгаці. Усім вядомы бярозавыя мётлы і венікі. Усе гаспадыні ведаюць аб высокай якасьці дроў, якія могуць гарэць і сырымі. За сваю палкасьць і вугаль яны лічацца лепшымі ад усіх іншых дроў. Бярозавы вугаль ідзе на выраб пораху, добра праз яго фільтраваць (прапушчаць) усякія вадкасьці. Бярозавы вугаль мае спасобнасьць затрымліваць у сябе фарбуючыя і пахучыя матар'ялы.

Як бачым з усяго, шмат карысьці прыносіць нам прыгожая беластвольная бяроза. Шануйце яе і ня пускайце вясною соку з бярозы.

**М. Шалупенка.**

---

# Як гнаць бярозавы дзёгаць.

Дзёгаць можна дабываць з карчоў і дроў іглыстых парод, з асінавай кары, з бяросты і з кары іншых лісьцяных парод, але бярозавы дзёгаць лічыцца найлепшым і ўжываецца нават на лякарства. З яго дабываюць мэдыкамэнты, як крэазот, крэалін і інш. За сваю масьляністасьць і спасобнасьць прыдаваць скурам мяккасьць і не дапушчэньне яе да гніцьця, дзёгаць мае вельмі шырокі ўжытак у скурнай і шавецкай вытворчасьці.

За граніцу СССР вывозіць штогодна каля 150 тыс. пудоў лепшага бярозавага дзёгцю. Для таго, каб выгнаць столькі дзёгцю, трэба абадраць бяросты з 5.000 дзес. чыстага бярозавага дрэвастану. Гэтыя лічбы паказваюць, які каштоўны матар'ял дае нам наша бяроза для гандлю з заграніцай. Загэтым трэба з вялікай увагай і пашанай адносіцца да гэтага дрэва.

Добры першасортны дзёгаць павінен быць масьляністы, цёмнабурага колеру з зеленаватым адлівам. Такі дзёгаць у гандлі завецца таварным і ідзе на прапітку скур.

Выганяць-жа дзёгаць на дзіва простая справа. Лепш усяго гнаць дзёгаць з бяросты абадранай з бярозы прыкладам ад зямлі да 1-2 саж. Гэта бяроста гладкая і дае добрыя выхады дзёгцю. Вельмі тонкая бяроста з маладых бярозак мала прыгодна, бо яна вельмі карбаціцца і скручваецца ў трубкі і не дае добрых выхадаў дзёгцю. Але, праўду кажучы, абдзіраць бяросту з дрэва ўсё-ж такі ня лёгкая праца. Звычайна-ж на выганку дзёгцю можна карыстацца бярозавай карой з бярозавых дроў.

Загатаваўшы бяросту, бяруць два адзінакавыя гаршкі ці чыгуны. Адзін чыгун закапваецца ў зямлю, каб берагі былі роўна з зямлёй, а ў другі поўна напіхваюць бяросты. Чыгун з бяростай кладуць у гару дном на ўкопаны ў зямлю, а каб бяроста ня выпадала з верхняга чыгуна, паміж імі кладуць ці дзюравую патэльню ці ліст бляхі, у якой робяць дзірачкі, каб дзёгаць мог сьцякаць у ніжні чыгун. Прыладзіўшы ўсё гэта добра, шчытна, усе шчыліны кругом добра замазваюць глінай, каб нідзе не праходзіў дух. Увесь гэты апарат асыпаецца пяском і, на стаячы ў гару дном чыгун, кладуць агонь. Ад жару з бяросты пачне гнацца дзёгаць і сачыцца ў ніжні чыгун. Ад добрага агню праз 1-2 гадзіны ўся бяроста тератлее, а дзёгаць з яе адгоніцца

і зьбярэцца ў чыгуне. Тады зьнімаюць верхні чыгун накладаюць бяросты і гоняць зноў, як і першы раз. Прыблізна з 5-6 фунтаў бяросты пры такім прастым спосабе выходзіць каля 1 фунта дзёгцю.

У заключэньне скажу, калі і як зьдзіраць бяросту. Дабываць бяросту лепш усяго вясной. Зімой бяросты не адлупіш, бо яна прымярзае да дрэва. Летам з жніўня м-ца бяроста таксама прысохне да дзерава і яе цяжка адарваць, а вясной лёгка аддзіраецца; вось тады яе і трэба загатаўляць. Каб дабычу бяросты зрабіць рацыянальнай і не псаваць гэтым лесу, трэба заўсёды памятаць, што бяроста—гэта знадворная кара бярозы; калі садраць яе, дык праз некалькі гадоў, яна зноў аднаўляецца і яе можна зноў абдзіраць. Але кажуць вучоныя дасьледчыкі, што такая бяроста менш зьмяшчае дзёгцю і дае слабыя выхады. Абдзіраньне бяросты ня прыносіць шкоды бярозе толькі тады, калі прарэзаюць яе толькі да ўнутранай бурават-зялёнаватай кары.

Калі-ж абдзіраць бяросту абы як і закратваць нажом драўніну, дык дрэва вельмі псуецца. Вясной пры драпежніцкім парэзе кары будзе выступаць сок—бярозавік. Сок гэты кісьне на дзераве і загнівае, а ад гэтага загніецца і самае дрэва. Гэтым можна так папсаваць бярозу, што яна нават дасьць дровы шмат ніжэйшай якасьці, чым здаровая. З гэтай прычыны можна дапусьціць няўмелых зьдзіршчыкаў толькі ў беразьняк, які ў гэтым самым годзе вызначаецца пад высруб-ку, або лепш браць бяросту ўжо з дроў.[1]) Зьдзіраць-жа бяросту трэба так: правёўшы нажом пакуль можна дастаць, аддзіраць бяросту ад дрэва палкай, канец якой завостраны тонкай лапаткай.

**М. Ш.**

---

## Пытаньні і адказы.

**Івашкевічу В. Т.** (в. Пілатаўка, Капаткевіцкага р.). У лесе мясцовага значэньня на хвоі стаяў мой вулей. Гэту хвою ўкралі і я знашоў яе ў селяніна ўжо парэзанай на дошкі. Хто павінен забраць дошкі.

**Адказ.** Дошкі павінна забраць вобчэства, а Вы за вулей падавайце грамадзкі іск.

**Шабалову М.** (хут. Боркі, Краснапольскі р. Полацк. акр.). Ці маю я права сячы лес, які адышоў ка мне з земфонду.

**Адказ.** Трэба ўзгодзіць гэта мясцовым лясьніцтвам.

**Рыжаму Ю.** (в. Крама, Самахвалавіцкага р.). Я ўзяў білет на 1 куб. сухастою. Пры вырубцы высек 2 асіны, якія былі на палову сырымі. Аб'езчык прызнаў іх сырарастучымі і падаў пратакол у РВК, які аштрафаваў мяне на 64 р. 15 к. Ці правільна гэта і куды мне зьвярнуцца, каб штраф зьнялі.

**Адказ.** Аб'езчык паступіў правільна. Аб зламжэньні штрафу трэба зьвярнуцца ў АВК і далей у ЦВК.

---

[1]) Зьдзірка бяросты у лесе дазваляецца лясьнічым, які на гэта выдае білеты, дзе павінна быць паказана месца і парадак зьдзіркі.

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Што лепш сеяць на балоце ў першыя гады.

Па досьледах Менскай і расійскіх дасьледчых балотных станцый, а таксама і замежных вядома, што ў першыя годы апрацоўкі асушаных балот магчыма атрымаць прыбытак ад пасеву выка-аўсянай мешаніны, аўса і бульбы.

На ўраджаі выка-аўсянай мешаніны, па досьледах Менскай балотнай станцыі, ня вельмі адбіваецца асушка балота пры адлегласьці канаў на 30 саж. адна ад другой, пры глыбіні 1,6 арш., шырыні (па верху) да 2 арш. і па дну 7 вярш.

Выка-аўсяная мешаніна мае кароткі тэрмін росту, гэта значыць, што яна патрабуе мала дзён для поўнага ўраджаю сена. Загэтым яе можна сеяць ад 23-га красавіка па 1-е мая. Усё гэта дапамагае гаспадарку лепш плянаваць сваю веснавую працу.

Мешаніна добра расьце, калі глеба ўзарана з восені, але і веснавое ворыва дае вялікі ўраджай.

Лепей высяваць мешаніну ў колькасьці 6 пуд. выкі і 6 пуд. аўса на дзес., а ўсяго 12 пуд. Пры такім складзе насеньня, яна стаіць да самай касьбы. Паменшаньне колькасьці аўса робіць сена смачным, але мешаніна палягае і падгнівае. Каб сена было больш смачнае, трэба касіць да часу наліва зярна аўса, і калі выка ўся зацьвіце.

Сярэдні ўраджай, які мела станцыя за 11 гадоў, 332 пуды на дзес. Пры пералічваньні прыросту сена на адзін дзень, гэта дае да 6 пуд.

Мешаніна добра родзіць ня толькі ў першы год апрацоўкі балот, але і пасьля ўсіх с-г. расьлін, якія сеюць на балоце. Яе можна сеяць на ўсіх свабодных кавалках балота, на добра раскіданых тарфяных кавальерах, якіх шмат наробленa ў сучасны момант у мэліорацыйных таварыствах.

**Авёс** патрабуе больш глыбокай асушкі; гэта значыць, што ён дае большы ўраджай пры адлегласьці канаў на 15 саж. і меншыя пры адлегласьці да 40 сажняў.

Прымаючы пад увагу больш доўгі тэрмін росту аўса, з яго пасевам ня трэба пазьніцца. Гэта значыць, што к 20 мая трэба адсеяць авёс. Лепшы пэрыяд пасеву 10-20 мая. Магчыма сеяць з 29 красавіка па 27 мая. У зьвязку з раньнім пасевам аўса ворыва балота трэба рабіць з восені, каб вясной толькі засталася далейшая апрацоўка, як баранаваньне, пасеў угнаеньня і насеньня, прыкатаваньне. На Менскай станцыі не зьмяншае ўраджаю і вясновае ворыва, але гэта толькі на старой распашцы. З фосфарных угнаеньняў для аўса, як і для выкавай мешаніны, лепш падсяваць тамасаўку.

Пры радковым пасеве патрэбна расьсяваць ня больш 6-ці пуд. насеньня аўса, рукамі ня больш 8 пуд. Густы пасеў прыводзіць да вылятаньня. Сярэдні ўраджай аўса на Менскай станцыі 116 пуд. зярна на дзес.

**Бульба** патрабуе больш глыбокай асушкі. Ураджаі 1100-1338 пуд. на дзес. станцыя мела пры асушцы балота канавамі на адлегласьці

10-15 саж. Пры адлегласьці канаў на 30 саж. ураджай быў толькі 850 пуд. Патрэбнасьць у глыбокай асушцы тлумачыцца тым, што бульба патрабуе шмат паветра для поўнага ўраджаю.

Вялікая патрэба бульбы ў паветры глебы, робіць яе вельмі цэннай расьлінаю. Для бульбы мае вялікае значэньне тэрмін ворыва балота. Вялікія ўраджаі палучаюцца ад ворыва з восені і толькі далейшай апрацоўкі вясною.

Павышае ўраджай таксама і раньняя пасадка бульбы (ад 23-га красавіка па 15-е мая), хаця тэрмін пасадкі лічыцца ад 23-га красавіка па 29-е мая.

Садзіць бульбу на балоце трэба пад плуг. Адлегласьць гранак трэба рабіць на 1¼ арш., а ў радкох 0,5 арш. Пасьля пасадкі поле патрэбна прыкатаць вальцом, каб дабіцца пад'ёму вільгаці.

Праз некаторы час поле барануецца, каб дапамагчы ўсходам і зьнішчыць сорныя травы. У працягу лета бульбу прыходзіцца два разы асыпаць і некалькі разоў палоць сарнякі. Такім чынам, бульба, як культура ачышчаючая поле ад сарнякоў, вельмі цэнна на балоце.

Бульба лепш расьце 1) па сьвежа-ўзоранаму балоту, 2) пасьля пасеву шматгадовых траў. Горш расьце бульба пасьля аўса і жыта.

**М. Баранова.**

---

# Капуста на балоце.

*(З матар'ялаў Забалацкай балотна-вопытнай гаспадаркі).*

Як вядома, гародніна дае добры даход і да таго лёгка збываецца, асабліва блізка каля гораду. Вось чаму наша станцыя з першых-жа дзён сваёй арганізацыі для вопыту з капустай адвяла 300 кв. саж.

Капусту садзілі на другі і трэці год пасьля вырабу балота. К зіме тарфянік звычайна заворваўся. З вясны балота баранавалася талеркавай бараной, угнойвалася (15 п. кал. солі + 15 п. тамасаўкі) і ў гранкі высаджвалася расада на 1 арш. расьліна ад расьліны.

Расаду разводзілі самі з насеньня Браўншвэйскай капусты, якое куплена на Турскай с.-г. станцыі. Расада па большай часьці пікіруецца і пасьля пасадкі ў грунт робіцца пасыпка салетры 6—8 пуд. на дзес. Каб лепш было пасыпаць салетру, яе мяшаюць з пяском.

На працягу лета капусту трэба асыпаць і два разы палоць.

У такіх умовах балотная гаспадарка дала такі ўраджай:

| Гады | Ураджай на дзес. у пуд. | Сярэдні ўзровень грунт. вод вясною (сакавік, май). | Чысты даход з дзес. | Рын. цана | УВАГА. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923 | 1700 | 30 сант. | 180 п. жыта | Абмен на хлеб. | У канцы ліпня капуста была пабіта градам. |
| 1924 | 1800 | 12 „ | 650 руб. | 50 к. | Расла капуста ў вільготных умовах. |
| 1925 | 2700 | 39 „ | 150 „ | 10 „ | Расла кап. ў звыч. умовах. |
| 1926 | 2000 | 18 „ | 750 „ | 50 „ | Вільгаць з вясны павышана. |

Гэта табліца дае сярэднюю ўраджайнасьць за 4 гады ў дзьве з лішкам тысячы пуд., прычым у паасобныя гады былі хістаньні ўраджайнасьці. Яны залежалі ад таго, што ў адзін год выпадае больш дажджоў, а ў другі менш. Калі вады выпадае шмат і яна ў паводкі залівае балота, то гэта дрэнна адбіваецца на ўраджайнасьці, але-ж пасеў сам сябе апраўдвае.

Даходнасьць, кажучы наогул, залежыць ад цэн на рынку. У тым выпадку, як ураджай бывае невялікі на капусту, на яе падымаецца цана, так што хоць менш зьбярэш, але даражэй прадасі.

Трэба заўважыць, што пікіроўка расады і падсыпка з вясны салетры заметна павышаюць ураджайнсьць. Вялікае значэньне мае сорт насеньня капусты, што відаць з наступнай табліцы, складзенай па матар'ялах 1925 г. [1]).

| Назва сорту | Ураожай з здес. | Пасьпяваемаеьць. | УВАГА. |
|---|---|---|---|
| Дзітмарная . . . | 3215 п. | Раньняя | Моцныя тугія качаны. Вельмі хварэе ад ржаўчыны. |
| Слава. . . . | 2887 „ | Сярэднія | Тугія качаны. Ржаўчыную не хварэе. |
| Дацкая . . . | 3166 „ | Сярэднія | Ад ржаўчыны хварэе. |
| Браўншвэйская . . | 2533 „ | Сярэднія | Качаны плоскія. Мала хварэе ад ржаўчыны. |
| Кубышка . . . | 2848 „ | Позьняя | Качаны тугія. Не хварэе. |
| Сабураўка . . . | 1365 „ | Позьняя | Качан вельмі кволы. |

Як відаць, ня ўсе сарты адчуваюць сябе аднолькава. Яны розьняцца па сваёй якасьці і па рыначнасьці. Усе гэтыя моманты трэба вывучаць.

У гэтым-жа артыкуле я толькі хачу зазначыць, што

1) разводзіць для сябе капусту на балоце зусім выгадна (ня трэба траціць гною на ўгнаеньне гародаў пад яе).

2) Зусім выгадна разводзіць капусту на балоце і ў вялікім разьмеры для прамысловасьці (на продаж), прычым якасьць і ўраджайнасьць залежаць ад пэўнага сорту («слава, кубышка»).

3) Працы балотнай гаспадаркі паказваюць, што капуста вельмі непераборлівая расьліна: можа вытрымаць нават і стаячую грунтовую ваду. Вельмі карысны пікіроўка расады і пасыпка салетры.

4) Даходнасьць капусты заметна хістаецца з кожным годам, у залежнасьці ад мясцовых прычын. Арганізацыя пераапрацоўкі па мясцох надае капусьце рыначнасьць, бо перавозіць яе з аднаго месца на другое ня выгадна.

Нарэшце, трэба зазначыць, што смак і якасьць балотнай капусты, судзячы па заявах, вельмі добрыя.

**А. Шохар.**

[1]) Насеньне палучана са складу Мейера. Масква.

# Як на балоце я вырасьціў пудовую капусту.

*(в. Сьвятое, Жлобінскага раёну).*

У нашай вёсцы амаль што ў кожнага селяніна вельмі дрэнна расьце капуста. Якімі толькі спосабамі сяляне ня пробавалі, нічога не памагло, бо месца пад капусту кожны год было адно і тое-ж. Тут капустная кіла (хвароба) укаранілася і не дае расьці капусьце.

Вось у нашай вёсцы арганізавалася мэліорацыйнае т-ва (Кастрычнікавае) па асушцы балота. У 1926 годзе я быў на мэліорацыйных курсах, на якіх і даведаўся, як лепш гадаваць капусту. Пасьля гэтага я ўзяўся паляпшаць сваю гаспадарку. Я вырасьціў дома сам здаровую і крэпкую расаду, а таксама пасадзіў капусту на балоце, зрабіўшы насыпную культуру (насыпаў ½-1 вярш. зямлі). Угнаеньнем на балоце я паклаў тамасаўку і калійную соль (36 пуд. на дзес.).

Асыпаў капусту таксама, як і на гародзе. Больш догляду ніякага ні прымяняў. Яшчэ тыдняў за 5-6 да прыборкі капуста была вельмі цікавай, нават сяляне нашай вёскі хадзілі глядзець капусту на балоце. Пры здыманьні капусты вынікі аказаліся такія: качаны былі здаровыя і крэпкія вагою 10—35 фун.

Такую справу раю ўсім сялянам, у каго ёсьць балота. І толькі тады наша краіна стане культурнай, калі нашы балоты будуць засеяны ўсякім збожжам і гароднінай.

Сел. **М. Карунчык.**

---

# Як зімою я накапаў 3.000 пуд. торфу.

Два гады я капаю торф зімою. Для подсьціла жывёлы торф ідзе колькі трэба, а рэшту торфа я пускаю ў кампост. За два гады я прабаваў капаць торф усякаю парою году і цяпер ведаю, што самаю лепшаю парою для копкі торфу будзе зіма.

Рана вясною, калі яшчэ час пазваляе (да выхаду на поле), на балоце бывае мокра і капаць торф нельга. Летам-жа, як падсохне на балоце, як раз няма ў селяніна вольнага часу. Пад восень ізноў макравата, а каля торфу ў дождж не работа. Апрача таго ў колах па балоце дрэнна праехаць, а то і немагчыма.

Балоты каля поля даюць лепшыя ўкосы і тут капаць торф ня трэба. Таксама ня трэба капаць і там, дзе балота служыць выганам, бо яны для жывёлы—пагроза. Воляй-няволяй прыходзіцца для копкі торфа выбіраць зацішнейшае месца.

Каб абыйсьці ўсе нявыгоды па копцы торфу, я лічу самай спрыяючай парою для копкі торфу зіму. Зімняя работа на балоце дае многа выгад селяніну:

1) Зімою больш вольнага часу (на загатоўку торфу гаспадару трэба каля 10 дзён).

2) Зімою можна ехаць куды глянеш: язда ў санях хутчэйшая. Вада зімою насачываецца ў яму марудней, чым летам.

Я сёлета капаў торф у канцы лютага. Яму адкрыў у 3 кв. саж. пракапаў да сажня глыбіні. Вада нацякала праз ноч толькі да 3 вярш.

Балота замярзае няглыбока. Накласьці воз торфу скора, бо кожны брусок важыць 10 фунт., а ніжні пласт яшчэ і больш.

Накапаць торфу зусім ня цажка, толькі трэба ведаць, якая карысьць ад яго, а там знойдзецца і час і сіла. У мяне возка бадай за вярсту, а я вывожу 15 вазоў на дзень, ды і ў стажкі наскладваю вазоў 5 пакуль падвода ў дарозе. Накідаць воз з ямы трэба менш часу, чым накідаць воз гною ў хляве.

Закончыў я возку 5-га сакавіка, а пачаў падсьцілаць жывёлу з 15-га красавіка. Той торф, што ляжаў зьверху, добра прамёрз і к 15-му красавіку высах і зрабіўся мяккі, як пух.

Трэба гаспадаром падумаць аб тарфяным подсьцілу, бо напрасна наша жывёла адчувае недастачу ў ім. Гной ад тарфяной подсьцілкі ня ўступіць саломенаму. А ў бягучым годзе гаспадары шмат дзе ня толькі на подсьціл, а і на корм стрэхі здымалі і гэта напрасна. Тарфяны подсьціл засьцярог-бы ад зрываньня стрэх на корм. Праф. Штэйнберг кажа, што ўсё добра для ўгнаеньня зямлі, але калі ўжо гаспадар мае торф, то лепшага шляху для палепшаньня гаспадаркі шукаць ня трэба.

Сел. **К. Запольскі.**

(Сьмілаўскі р., Апчакскі с/с, пас. Калодзішкі).

---

# Паштовая скрынка.

**Язэпу Талуціску.** Ваш артыкул надрукуем у № 6. Пішэце.

**А. Забалотнаму.** Пойдзе ў наступным нумары.

**А. Магучаму.** Сэзонны матар'ял прысылайце раней. Апошнія артыкулы атрымалі.

**Сел. Піліповічу П. Я.** (в. Еўлічы). На Ваш ліст Слуцкі Акрсельсаюз адказаў, 1) што ў в. Еўлічах, арганізацыя малочнай арцелі ў 1926-27 г. плянам не прадугледжана. Папярэдняя праца была пачата раённым жывёлаводам Пранжыло па сваёй ініцыятыве. З матар'ялаў абсьледваньня справы на месцы Саюз выявіў, што ў 3 вяр. ад в. Еўліч ёсьць с-г. т-ва, якое і вядзе працу ў малочнай гаспадарцы. 2) Прадажа макухі члену племяннога т-ва насіла выпадковы характар, таму, што т-ва не прысылала ў Сельсаюз заявак на макуху.

---




## Уплыў на жывёлу корму, які выклікае бражэньне.

Сельска-гаспадарчыя навуковыя досьледы паказваюць, што жывёлу куды карысьней карміць на пашы, чым трымаць у стойле: тут (у стойле) жывёла робіцца вялай. Аднак мы ведаем, што і адна паша ўменшае пладавітасьць і малочнасьць жывёлы.

За апошнія часы навука ведае, як пазбавіцца ад дрэннага уплыву стойлавага корму на жывёлу. Ужо здабыты такі склад корму, які аздараўляе арганізм жывёлы. У практыцы Амэрыкі і Заходняй Эўропы гэта робіцца так: да разьмельчанага корму, што даецца жывёле, прымешваецца сыроватка ад масла і дадаецца трошкі дражджэй. Ад гэтага ў корме пачынаецца бражэньне, або інакш кажучы, робіцца тое, чаго не хапае жывёле, калі яна ня ходзіць па пашы. Падрыхтаваны такім чынам корм уводзіць у арганізам патрэбныя яму матэрыі пад назвай «вітаміны».

Дражджавыя клеткі шыбка множацца і тым самым узбуджаюць і ажыўляюць жыцьцё арганізму жывёлы. Па-другое, з тэй прычыны, што сыроватка мае вялікі процант малочнай кіслаты, у ёй ня можа ўтварацца вуксусная кіслата. А гэта будзе прычынай, што бактэрыі вуксуснай кіслаты і іншыя шкодныя бактэрыі, якія знаходзяцца ў кішках жывёлы, становяцца ня шкоднымі для жывёлы. Вось чаму жывёла хутка пачынае папраўляцца.

**І. Лібах**

г. Балта.

---

## Зьвернем увагу на захаваньне быкоў.

Па Барысаўскай акрузе ў 1926 г. ў сялянскіх гаспадарках быў вялікі недахоп у быкох-племянікох. Напрыклад, у Бегамльскім раёне на 1-го быка ад 2 год прыпадала 286 кароў, па Барысаўскаму р. 145, па Халопеніцкаму—138. Ня лепшая справа і па іншых акругах БССР.

У гэтым артыкуле я хачу пагутарыць аб выкарыстаньні быкоў. У сялянскіх гаспадарках быкі паступаюць у злучку вельмі рана, быкі ідуць на пашу сумесна з вясковым стадам. Маладыя быкі, паступаючы рана ў злучку, нарэшце ня могуць даць жадных вынікаў і сялянскія каровы маюць вялікі процант ялавых. Ня будзе памылкі, калі скажу, што дзесятая частка кароў у працягу году дае толькі гной. Пры

гэтых умовах, калі на 1 быка прыходзіцца больш 130 кароў і калі злучны пэрыяд падае, галоўным чынам, ня летнія м-цы май—ліпень, дык ясна, што добрых вынікаў ня можа быць. А бываюць выпадкі, што гаспадар ня можа знайсьці ніякага быка, каб прыпусьціць да каровы.

Ненармальныя суадносіны паміж колькасьцю кароў і быкоў павінны быць ліквідаваны. Па-другое, неабходна адмовіцца ад пашы быка ў стадзе. Тут бык часта без патрэбы траціць свае сілы і скарачае пэрыяд сваёй службы.

Вось чаму трэба зараз падумаць аб заўтрашнім дні.

1. Трэба захаваць усіх быкоў ад лепшых мясцовых кароў. Гэтым мы зьменшым недахоп быкоў.

2. Ня злучаць ні быкоў ні цёлак раней 2 год, бо ад ранняга прыпуску будзе дрэнны прыплод.

3. Не выганяць на пашу быкоў сумесна са стадам; гэтым мы паклапацімся аб якасьці быкоў і якасьці прыплоду.

4. Усе недахопы, якія перашкаджаюць разьвіцьцю жывёлаводзва, можна адсунуць пры належнай працы ў бычых і жывёлаводных таварыствах.

**А. Арлоўскі.**

(Барысаў, АКРЗА)

---

# Як паляпшаю я сьвінаводзтва.

Корм стварае пароду—вот што кажа сельска-гаспадарчая практыка. Пад кормам трэба разумець ня толькі тое, што кладзецца пад нос сьвіньні, але і ўсе тыя умовы, у якіх жыве скаціна. Я даўно зьвярнуў увагу на сьвінаводзтва, як на даходную справу, але спачатку рабіў некаторыя памылкі. Купляў я на базары парасят прастых сьвіней па рублёў 2-3 за штуку. Гадаваў іх сабе на мяса і на продаж, але вынікі з гэтага мне не спадабаліся. Парасята расьлі вельмі марудна. Карміў я іх добра: варанай бульбай, здыманым малаком, ячнай мукою, ячменным падкруп'ем, а парасята мала елі. Такому парасяці месяцаў 6, а яно важыць ня больш двух пудоў.

Прабаваў купляць для адкорма і дужаватых падсьвінкаў. І гэтым не магу пахваліцца. Ядуць шмат, а растуць слаба. Мусіць дрэнна спажываюць корм. Калі парася ў маладасьці карміласся дрэнна, то і пасьля на добрым корме яно ад'есьціся ня можа. Калі падсьвінак добра корміцца да году, то і пасьля яго добра расьціць.

Адзін раз купіў я сьвінку курносай ангельскай белай пароды за 6 рублёў у латышскага гаспадара. Важыла яна 20 фун. жывое вагі. На 9 месяцы я звадзіў яе да кныра такой-жа пароды, але да другога гаспадара, каб ня было блізкай крыві. Ад яе ўжо было 10 парасят зусім добрых. Часьць прадаў, а некалькі пусьціў сабе. У 8 месяцаў яны ўжо важылі па 5 п. 20 фун. Адзін з іх асабліва вылучаўся. Я зараз адсадзіў яго на адкорм (шкадаваў, што ён ня сьвінка: добра было-б на племя). У 8 месяцаў гэты падсьвінак важыў 8 п. 25 ф. і быў прадаюны ў каўбасную за 104 руб.

Яго сястру 11 месяцаў я вадзіў да кныроў у племхоз «Адамёнкі» ў мястэчка Ліозно. Там ёсьць кныры белай ангельскай Іокшырскай пароды (доўганосыя, апошняя навінка)[1].

За парасят ад яе мне плацяць 50 кап. за фунт жывое вагі. Двухмесячныя япручкі важаць 1 п. 20 ф., а сьвінкі па 1 п. 11 ф. Такі, памойму, трэба выбраць шлях сьвінаводзтва. Лепш у сваёй гаспадарцы мець пародзістага кныра альбо купіць яго, злажыўшыся некалькім гаспадаром, але не гадаваць сьвіней простай пароды.

Сел. **М. Зьвераў.**

(Высачаны, х. Забор'е Віцебскай акр.).

---

# Як даведаўся я пра карысьць сэпаратара.

Быў я адзін раз на рынку ў Марына-Горцы. Прадае селянін масла 30 фун. Даюць яму па 1 руб. 5 кап. за ф. Побач-жа з ім прадае другі селянін масла і просіць па 70 кап. за фунт, але яму ня хочуць даваць і гэтага. На выгляд масла яго жаўцейшае нават за першае. Чаму-ж гэта, думаю, так і пытаю я ў першага селяніна: «вось за ваша масла даюць 1 руб. 5 кап., а побач з вашым другому селяніну ня хочуць даваць і 70 кап.».

Ён кажа мне, што яго масла сэпаратарнае, гэта значыць, сьвежае, чыстае і на смак добрае.

— «А як вы робіце яго?»—спытаў я.

— «А вот прывязі мне сьвежага малака і я табе пакажу, як рабіць такое масла».

— «А дзе-ж вы жывеце?»

— «У Бары, маё прозьвішча Немагай».

Пачакаўшы месяцы два, як стала даіцца мая карова, узяў я 10 фун. малака і паехаў у Бор к Немагаю. Павёў ён мяне ў памяшканьне, дзе робіць масла і паказвае сэпаратар. «Вось тая машына, якая пераганяе малако», сказаў Немагай. Перагнаў ён мне малако. Вышла здыманае малако і салодкая сьмятана. «А масла, кажа ён, можна будзе тады зьбіць, як сьмятана паставіць 12 гадзін». Забраў я сьмятану, малако і паехаў дадому. Прыехаўшы дадому, зьбіў масла. Масла вышла амаль што з поўфунта. Здыманае малако можна было есьці і квасіць.

Так я даведаўся, якую карысьць дае сэпаратар. Гэта добрая машына. Трэба набываць яе сялянам гуртом, калі аднаму не пад сілу.

Сел. **П. Жаўнерчык.**

---

[1]) У мяне ёсьць спэцыяльная будка вазіць да кныроў і на продаж сьвіней. У такой будцы сьвіньня вязецца свабодна, нішто яе ня турбуе. У другіх жа бывае так, што свіньня пакуль праедзе 15 вёрст, пераломіцца і ня прымае кныра.




# Якая карысьць ад сваячасовага апрыскваньня атрутамі ў садох.

Шкоднікі ў садох зьяўляюцца аднэй з галоўных прычын зьмяншэньня ўраджаю пладоў.

Ёсьць шэраг шкоднікаў, з якімі змагацца вясною магчыма толькі апрыскваньнем лісьця дрэў атрутамі. На жаль, ня ўсюды апрыскваньне ўжываецца. Яшчэ ня ўсе ведаюць, якую карысьць мы маем ад апрыскваньня. Гавораць, што апрыскваньне дорага каштуе, што яно не памагае. Што гэта ня так, мы ўбачым, калі азнаёмімся, колькі грошай ідзе на апрыскаваньне і якую карысьць мы маем ад павялічэньня ўраджаю пасьля апрыскваньня.

Пакажам лічбы. Страта на барацьбу з садовымі шкоднікамі складаецца з кошту апрыскваценя і атрутаў. Цана апрыскваценя залежыць ад сыстэмы. Ранцавыя апрыскваценi прадаюць па 30 руб. (сыст. «Памакс»), конныя (сыст. «Памона») каля 70 руб. Прымаюць, што працуе апрыскаваценiь 8 год. Таму, кошт апрыскаваценя трэба раскласьці таксама на 8 год. Каб атрымаць пэўны гадовы кошт апрыскваценя за адзін год, трэба павялічыць цану для ранцовага яшчэ на 25 проц., а для коннага на 50 проц. (рамонт, запасныя часткі, калёсы для коннага апрыскваценя і інш.). Тады ранцавы апрыскваценiь абойдзецца 4 руб. 69 к., а «Памона» 13 руб. 12 кап. за адзін год.

Якая-ж працаздольнасьць апрыскваценяў? Ранцавы можа апрацаваць за дзень 50 дрэў, «Памона»—250—400 дрэў.

Калі ў першыя гады апрыскваценi будуць ужывацца, галоўным чынам, супроць грызучых шкоднікаў, як калечнік, няпарнік, зімняя пядзяніца і інш., то за сэзон можна будзе з ранцавага апрыскваць 4 дзес., а з «Памоны» 30 дзес. саду. У першым выпадку абработка аднэй дзес. будзе каштаваць 1 руб. 17 кап., а ў другім 44 кап. «Памонай» добра працаваць у вялікіх садох, ранцавымі ў маленькіх сялянскіх.

Атруты таксама не такія ўжо дарагія. Мы азнаёмімся з коштам парыскай зелені, як найбольш звычайнай атруты супроць шкоднікаў ва умовах Беларусі. Парыская зелень каштуе каля 25 руб. за пуд. На дзес. патрэбна 4 фун. зелені і 8 фун. неадгашанай вапны, бо зелень заўсёды ўжываецца з вапнай. Значыцца, на адну дзес. патрэбна зелені на 2 руб. 50 кап. і на 40 кап. вапны (прыблізна цана вапны 2 р. пуд).

З паказаных лічбаў бачым, што апрацаваць дзесяціну сада каштуе ад 3 руб. 34 кап. да 4 руб. 17 кап. (у гэтым падрахунку мы ня лічым кошту рабочай сілы і арганізацыйных страт, транспарту).

Страта на барацьбу з грызучымі шкоднікамі, а ад іх галоўная шкода, невялікая—усяго на адну дзесяціну да 4 руб. Што азначае 4 руб. для саду. Гэта 4 пуды яблык (пры цане 1 руб. за пуд). Пэўна, калі ўраджай не павялічаўся-б пасьля апрысканьня, гэта страта была-б заметна для гаспадара. Але справа ў тым, што шкоднікі могуць пажэрці ўвесь ураджай і гаспадар не атрымае тады ніякага даходу.

Мы бачылі ў апошнія гады ў Бабруйшчыне, як калечнік агаліў вялікія сады і яны выглядалі тады быццам увосень—гальлё было бяз лісьця. Здаецца, гаспадары-садаводы тады далі-б не чатыры рублі з дзес., каб выратаваць ураджай пладоў ад шкоднікаў.

У садовых раёнах шкоднікі заўсёды ёсьць і яны пры спрыяючых варунках плодзяцца і хутка распаўсюджваюцца па вялікай акрузе. Ураджай нашых садоў цяпер залежыць ад спрыяючых выпадкаў. А гэтага не павінна быць. Культурны гаспадар ня можа пакладацца на спрыяючыя выпадкі і здавальняцца тым, што дае яму прырода. Гаспадар павінен кіраваць прыродай так, каб зьнішчаць усё тое, што для яго не карысна.

Апошнія нагляданьні па ўсяму СССР паказваюць, што шкоднікі за гэтыя годы зьмяншаюць ураджай садоў да 30 проц. Гэта значыць, што на кожныя 100 руб. даходу з саду мы не дабіраем 30 руб., а па ўсёй Беларусі больш, чым на 800.000 руб.

Змагацца са шкоднікамі ёсьць пэўны сэнс. Вось чаму мы і павінны цяпер-жа падумаць аб тым, каб у садоўнікаў былі ў самы час апрыскваце лі і атруты. Аб гэтым належыць паклапаціцца самім гаспадаром садоў. Лепш за ўсё гэта зрабіць праз коопэрацыю. Што цяжка аднаму, то лёгка арцельна. С.-г. коопэрацыя заўсёды дапаможа сялянам у гэтым напрамку.

Трэба не спазьніцца і клапаціцца, каб усё патрэбнае было ў час.

Страціш капейкі, а выратуеш рублі.

Б. Бранцаў.

---

# Гадоўля цыбулі.

Усякі чалавек ведае гэту расьліну і вельмі мала можна налічыць тых дзён, у якія наша страва абыходзіцца без яе.

Гэту гародніну мы маем у сьвежым выглядзе круглы год. Але цыбуля павінна мець у БССР і эканамічнае значэньне, бо яна адказвае больш інтэнсыўным формам сельскай гаспадаркі, гэта значыць, што цыбуля дае ў некалькі разоў больш прыбытку з аднэй і той-жа плошчы зямлі. Аднэй з такіх форм земляробства зьяўляецца гародніцтва. Па даным НКЗБ зараз і ў наступныя пяць гадоў у нас будзе недавыраб гародніны. Большасьць гародніны, вядома, можа ісьці толькі на мясцовы рынак. Зусім іншая справа з культурай цыбулі. У сучасны момант недахоп цыбулі пакрываецца ўвозам яе з Украіны, тады як кліматычныя умовы і прастата тэхнікі гадоўлі цыбулі зусім дазваляюць нам ня толькі здаволіць свой рынак, але лёгка вывозіць лішкі і ў паўночныя часткі СССР і нават заграніцу, дзе заўсёды ёсьць попыт на цыбулю.

Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі яшчэ ў 1908 годзе палучалі ў сябе цыбулі на суму каля 20 мільёнаў руб. і кожны год увозілі яшчэ на 3 мільёны руб. Гэтыя лічбы паказваюць, што цыбуля зьяўляецца ня толькі спажывецкай расьлінай, але і ходкім таварам.

Па праф. Штэйнбэргу сярэдні ўраджай цыбулі будзе каля 8 тыс. кгр. на гэктар, што нават пры нізкай цане па 10 кап. кгр. дасьць 800 р. валавога даходу.

Прыблізны расход па гадоўлі цыбулі на гэктар паказвае такая табліца:

| Чар. №№ | Назва расходаў. | Працоўная сіла | | | Сума. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Кон. | муж. | жан. | Руб. |
| 1 | Апрацоўка глебы . . . . | 8 | 4 | — | 24 |
| 2 | Угнаеньне . . . . . | — | — | — | 90 |
| 3 | Кошт пасадачнага матар'ялу . . | — | — | — | 110 |
| 4 | Пасадка . . . . . | — | — | 50 | 35 |
| 5 | Полка . . . . . | — | — | 60 | 42 |
| 6 | Прыборка ўраджаю . . . | 4 | 8 | 140 | 98 |
| | Усяго . . | 12 | 12 | 250 | 399 |

Такім чынам, умоўна чысты даход выявіўся ў суме (800—399) 401 руб. на гэктар.

**Месца** пад цыбулю, як і для ўсякага гароду, павінна быць абаронена. Трэба толькі заўважыць, што цыбуля ня любіць нізкіх сырых месц, асабліва, дзе застойваецца вада. Найлепшай глебай зьяўляецца суглінiстая, добра ўгноеная пад папярэднюю культуру або з восені, на якую палажан гной да 2.400 п. Асаблівую вартасьць для цыбулі мае птушыны гной. Таксама выгадна ўносіць і мінэральныя ўгнаеньні прыблізна ў такой колькасьці на гэктар: супэрфосфату 200 кгр., калійнай солі 150 кгр. і салетры 100 кргр.

Апрацоўка глебы пачынаецца з восені і павінна быць глыбокая і акуратная, затым што цыбуля мае доўгае карэньне, якое заходзіць глыбока ў глебу.

Разводзіць цыбулю можна двумя спосабамі—галоўкамі і насеньнем. У першым разе бяруць невялікія галоўкі, так званая «цыбуля сеянчык» і магчыма раньняй вясною садзіць яе на загатоўленыя градкі на адлегласьці прыблізна 18 × 15 см. Калі-ж высаджваемая цыбуля мае вялікія галоўкі, то ў яе зразаецца самая верхняя частка на ⅓ вышыні і на 2-3 дні яны высыпаюцца ў цэбар з вадою, пасьля чаго іх садзяць у глебу. Сартамі для гэтага спосабу будуць—1) данілаўскі, 2) раманаўскі і 3) звычайны рускі.

**Распаўсюджваньне насеньнем.** У канцы сакавіка насеньне высяваюць у парнік або ў скрыначку. Дзён праз 10 пасьля ўсходаў, якія зьяўляюцца тыдні праз 2, а то і 3 пасьля пасеву, робіцца пікіроўка ў

парнікі або ў халодныя расаднікі. У сярэдзіне мая робіцца пасадка ў глебу на адлегласьці каля 18 × 18 см.

Пасадку трэба рабіць магчыма мяльчэй (у самай паверхні). Догляд выяўляецца ў барацьбе з сарнякамі, у пульхненьні і выслабаненьні ад зямлі глыбока пасаджаных галовак.



Гадоўля цыбулі пад Менскам у Інстытуце прыкладное батанікі.

Заграніцай у сучасны момант цыбуля разводзіцца выключна насеньнем, затым што кошт галовак і расходы на захаваньне іх абыходзяцца вельмі дорага. Акрамя таго, з насеньня можна атрымаць значна большы ўраджай. Маючыяся даныя гароднікаў-практыкаў і досьледы (аднагадовыя) інстытуту Прыкладнай Батанікі пад Менскам, якія рабіліся з 35 сартамі (гл. мал.), кажуць за пэўную магчымасьць і перавагу разьвядзеньня цыбулі насеньнем.

У Паўночнай Амэрыцы Злучаных Штатаў, цыбуля пры гэтым спосабе дае ўраджай у сярэднім каля 20 т. кгр. на гэктар. Прыблізна такая лічба была атрымана ў 1926 годзе і пад Менскам. Пры пасеве насеньнем палучаюцца вялікія галоўкі, якія больш далікатны і скарэй псуюцца. Аднак, гэты спосаб гадоўлі цыбулі трэба пашыраць пераважна.

**В. Красачкін.**




# Чаму патрэбен разьлік у сялянскай гаспадарцы *).

Ніхто ня можа супярэчыць таму, што існуючыя формы арганізацыі сялянскай гаспадаркі ня толькі не прыстасованы ў большай сваёй часьці да запросаў і імкненьня социялістычнага пабудаваньня новых гаспадарчых формаў, але зусім адстаюць ад агульнага гаспадарчага разьвіцьця, ад патрэб сучаснага рынку і арганізацыйнай сувязі паасобных галін сельскай гаспадаркі. Ня дзіва загэтым, што ўсе с.-г. мерапрыемствы дзяржавы і грамадзянства накірованы зараз на зьнішчэньне гэтых недахопаў. Гэта вострая супярэчнасьць і цяжкасьць у арганізацыі паасобных галін сялянскай гаспадаркі ня менш адчуваецца і кожным селянінам. Як хмара, павісла над сялянскай гаспадаркай патрэба яе перааргнізацыі. «Трэба пераарганізаваць», але хто не задаваў сабе пры гэтым пытаньні аб тым, як пераарганізаваць, з чаго лягчэй і лепш пачаць, куды і ў які бок накіраваць галоўныя арганізацыйныя сродкі і сілы. Трэба разьлічваць, дзе, як і колькі чаго карысьней страціць.

Бяз гэтага разьліку ня толькі ня можна зрабіць абгрунтованай перабудовы гаспадаркі, але немагчыма нават і весьці з карысьцю далей гаспадарку наогул. Вось чаму с.-г. разьлік, як падстава разумнай абмяркованай с.-г. дзейнасьці, шырока пастаўлены ў форме розных запісаў па сялянскіх гаспадарках усіх перадавых дзяржаў. У сялянскай гаспадарцы Беларусі гэтыя патрэбы ў с.-г. разьліку і запісы зараз ня меншыя.

Неабходна прылажыць усё, што магчыма, для распаўсюджваньня і найбольш шырокай пастаноўкі розных с.-г. запісаў, як дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі, таксама і сялянствам.

Выкананьне гэтай працы карысна, як і неабходна, бо с.-г. разьлік:

1) Дае магчымасьць высьвятляць даходнасьць гаспадаркі наогул, а таксама і яе паасобных галін.

2) Прывучае да аналізу с.-г. процэсаў, да ўважлівых адносін гаспадара да ўсяго таго, што можа аказваць на гаспадарку уплыў.

3) Вынікі падліку—адзіная лепшая падстава пры пераарганізацыі гаспадаркі і зьмене ў ёй, як агульнага напрамку, гэтак і паасобных галін, тэхнічных прыёмаў апрацоўкі глебы, угнаеньня, перапрацоўкі прадуктаў, іх закупкі і збыту і інш.

4) С.-г. падлік—грунтоўная прычына рацыянальнай с.-г. працы;

*) У маі м-цы т. г. Эканамічны Аддзел Навукова-Дасьледчага І-ту імя Леніна распачынае сталую працу па вядзеньню рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадарках (*Рэд.*)

5) Пашырэньне і паглыбленьне прывычкі ў сялян да с.-г. падліку—лепшая школа і прыём да зьніжэньня застою ў сялянскай гаспадарцы, лепшы паказчык с.-г. прогрэсу.

Без пастаноўкі правільнага падліку ў сялянскай гаспадарцы дзяржава ня можа мець сталага напрамку ў кіраўніцтве народнаю сельскаю гаспадаркаю, ня можа мець сталай с.-г. палітыкі.

Масавы с.-г. падлік, арганізаваны шляхам належных запісаў, ёсьць падстава пляновасьці дзяржаўнай дзейнасьці.

**В. С. Пудаў.**

---

# Як перасяленцу можна прадаць на старой сялібе свае будынкі і сад.

Лік сялян, якія жадаюць перасяліцца ў Сібір, усё павялічваецца, бо вострае малазямельле ў некаторых раёнах не дае ім магчымасьці жыць. Перасяліцца таксама ня лёгка, бо для пабудаваньня гаспадаркі на новым месцы патрэбны грошы. Каб сабраць іх, перасяленец аддае ў арэнду сваю зямлю і прадае будынкі з садам, жывёлу і іншую маемасьць на старым месцы.

Прадажа будынкаў можа быць зроблена на знос ці з пакіданьнем іх на месцы. Стары сад прадаць можна толькі на месцы.

Дзеля прадажы будынкаў на знос ня трэба ніякага дазволу. Прадаць-жа іх з пакіданьнем на месцы, а таксама і сад можна толькі таму, хто атрымае сядзібу ад зямельных органаў у парадку надзяленьня. Дагавор аб прадажы будынкаў на месцы павінен быць зарэгістраваны ў Раённым выканаўчым камітэце. На апошні ўскладаецца абавязак наглядаць, каб у аднаго пакупца ня было некалькіх сядзіб. (Бюл. СНК за 1925 г., № 9, стар. 15).

На знос будынкі прадаюцца ў большасьці толькі за бясцэнак. Дзеля чаго перасяленец заўсёды жадае прадаць іх разам з садам на месцы. Пытаньне аб прадажы ўсёй маемасьці вырашаецца, звычайна, вясною перад вывазам на новую зямлю з колёнізацыйнага фонду, калі для перасяленца многа значыць кожны дзень.

Позьні выезд на новую зямлю даводзіць да страты цэлага году, бо ў Сібіры лета кароткае. З гэтай прычыны Народны Камісарыят Земляробства 1 жніўня 1926 г. выдаў цыркуляр, за № 13 аб тым, каб дагаворы на здачу перасяленцамі зямлі ў арэнду афармляліся-б раённымі выканаўчымі камітэтамі бяз усякага затрыманьня.

На мясцох узьнікаюць пытаньні, як-жа рэгістраваць дагаворы аб прадажы перасяленцамі будынкаў і сада з пакіданьнем іх на месцы? Прадаць іх можна толькі таму, хто ў парадку зямляўпарадкаваньня атрымае сядзібу перасяленца. Зямляўпарадкаваньне-ж цягнецца доўга, бо пры гэтым складаецца проэкт, ён прад'яўляецца зямельнаму вобчаству, потым разглядаецца раённаю і акруговаю зямельнаю камісіяй і толькі пасьля гэтага надзяленьне лічыцца скончаным. На ўсё гэта трэба з паўгода часу, перасяленец-жа чакаць столькі ня можа.

Дзеля таго, каб не затрымліваць выяжджаючых перасяленцаў і даць ім магчымасьць найкарысьней прадаць сваю маемасьць, Асобая Колегія Вышэйшага Контролю па зямельных справах (22 сакавіка г. г. ў журнале распарадчага пасяджэньня № 25), у разьвіцьцё 24 артыку-

ла Земкодэкса растлумачыла, што раённы выканаўчы камітэт можа адразу-ж зарэгістраваць дагавор аб прадажы перасяленцам будынкаў з пакіданьнем іх на месцы, і сада, калі пакупшчык гэтае маемасьці мае на падставе 10 арт. Зям. код. права на надзяленьне зямлёю ў гэтай мясцовасьці ў першую чаргу. Такім чынам, зарэгістраваньне дагавору раённым выканаўчым камітэтам забясьпечвае пакупцу права на атрыманьне ім сядзібы перасяленца ў парадку зямляўпарадкаваньня, калі яно будзе праводзіцца.

Усякі, хто лічыць правы парушанымі, мае права аскаржыць пастанову раённага выканаўчага камітэту аб зарэгістраваньні дагавору ў акруговую зямельную камісію ў працягу двох тыдняў з таго часу, калі ён даведаўся аб гэтай пастанове.

Такі парадак рэгістрацыі дагавораў аб прадажы будынкаў і сада ў сапраўднасьці палегчыць становішча перасяленцаў і скасуе быўшую раней валакіту ў гэтай справе.

**Аўг. Вішнеўскі.**

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

**Пытаньне 72.** Ці правільна будзе разумець увагу 2 да арт. 73 зям. код. у тым сэнсе, што асобы, якія ўвайшлі ў склад сялянскай гаспадаркі па шлюбу альбо прыёму і працавалі ў гаспадарцы менш 2 севазваротаў, ня могуць патрабаваць сямейнага падзелу і толькі ў выключных выпадках гэтае права можа быць за імі прызнана зямельнымі камісіямі (Чэрыкаўскі райвыканком).

**Адказ.** Новы член гаспадаркі здабывае ў ёй правы на карыстаньне зямлёю і правы ўласнасьці на іншую агульную маемасьць з моманту прыняцьця яго гаспадаркай у свой склад і з гэтага-ж моманту можа патрабаваць падзелу двара. Увага 2 да арт. 73 зям. код. ўскладае на зямельныя камісіі абавязак адносіцца да такіх іскаў з вялікай асьцярожнасьцю і здавальняць іх пры кароткатэрміновым знахаджэньні ў гаспадарцы новага члена толькі ў выключных выпадках.

**Пытаньне 73.** Ці мае права ўдава, якая вышла замуж у другую вёску, а карыстаецца зямлёю ў вёсцы свайго першага мужа, на гэтую зямлю, калі другіх членаў двара ад першага мужа не засталося і ў вёсцы яго робіцца зямляўпарадкаваньне. (Магілеўская акрземкамісія).

**Адказ.** Права працоўнага зямлякарыстаньня спынена можа быць толькі на падставах, якія вызначаны ў законе. Ні выхад замуж, ні зямляўпарадкаваньне, ні выезд з вёскі ня служаць падставамі для пазбаўленьня права карыстацца зямлёю. Калі член двара пяройдзе ў новы двор, дык ён траціць права на маемасьць, у тым ліку і на зямлю, папярэдняга двара на карысьць заставшыхся ў ім членаў; а ў тым выпадку, калі ўсе члены аднаго двара пераходзяць у другі, яны могуць прадаўжаць карыстацца маемасьцю і зямлёю абодвух двароў. Нельга па закону быць членам двух зямельных вобчастваў па карыстаньню палявымі ўжыткамі, але можна карыстацца полем на абшары некалькіх зямельных вобчастваў, уваходзячы ў склад аднаго з іх. Дзеля гэтага правядзеньне ў вобчастве зямляўпарадкаваньня не дае права на пазбаўленьне зямлі, якою да таго часу карысталася грамадзянка іншага зямельнага вобчаства, калі ўсё зямлякарыстаньне яе не перавышае максымальнае нормы.

**Пытаньне 74.** Грамадзянін перасаліўся ў Сібір, а зямлю сваю здаў у арэнду на 3 гады. У гэты час зроблена зямляўпарадкаваньне ў вёсцы, з якой выехаў перасяленец; прычым і яму адведзена зямля па норме. Паўстае пытаньне, ці можа перасяленец здаваць у арэнду тую зямлю, якую ён атрымаў пры зямляўпарадкаваньні і на якой раней не працаваў?

**Адказ.** Увага да арт. 33 зям. код. прадастаўляе перасяленцу права трымаць за сабою ў працягу 3 гадоў з часу перасяленьня ранейшую зямлю і здаваць яе на гэты тэрмін у арэнду. Зямляўпарадкаваньне на бацькаўшчыне перасяленца не пазбаўляе яго гэтага права.

**Пытаньне 75.** Як пры зямляўпарадкаваньні трэба адвадзіць зямлю, якую здаў ў арэнду перасяленец? (Віцебская акрземкамісія).

**Адказ.** Зямля перасяленца пры зямляўпарадкаваньні лічыцца за самастойную гаспадарку і не павінна далучацца да зямлі арандатара альбо другіх грамадзян, якія маюць права на данадзяленьне. Па проэкту зямляўпарадкаваньня на долю перасяленца адводзіцца зямля ў тым размеры, на які перасяленец меў-бы права, калі-б знаходзіўся на месцы. Усе вучасткі перасяленцаў па магчымасьці адводзяцца ў адным месцы побач з вучасткамі грамадзян, якія ня маюць мінімальнае нормы. Робіцца гэта дзеля таго, каб пасьля залічэньня перасяленскіх вучасткаў у запасны фонд можна было-б шляхам аб'яднаньня іх з вучасткамі малазямельных грамадзян скласьці жыцьцёвыя гаспадаркі. Вучасткі перасяленцаў і пасьля зямляўпарадкаваньня застаюцца ў карыстаньні іх арандатараў, пакуль ня скончыцца тэрмін дагавору.

---

# Што робіць упартая праца.

Кожны праежджы па в. Астравы заўважыць маленькі хутарок плошчай 1 дзес., выгляд якога прымушае зьвярнуць на яго ўвагу. Гэта хутарок селяніна-беларуса Р. Хмялеўскага.

З надворнага боку хутарок мае выгляд кутка жывое прыроды, пасярод якой зьмяшчаецца сад у ліку 50 дрэў, а сядзіба наўкола абсаджана дрэвамі, як: елкай, клёнам, бярозай, дубам, вішняй і сьлівай, якіх кругом налічваецца да 150 штук. Да 1912 году Хмялеўскі працаваў на чыгунцы, на якую пайшоў з малых гадоў, і ў працягу службы на чыгунцы прыходзілася бачыць розныя гаспадаркі. І вярнуўшыся да хаты ў яго зьявілася думка палепшыць гэты вучастак, каб можна было з яго пражыць. У 1913 г. быў пасаджан сад у ліку 50 дрэў, якія падзяляюцца на антонаўку—25 шт. і ігрушы «Дзюшэс» 18 шт., а рэшта—розныя сарты ігруш і яблынь.

Пасадка дрэў разьмеркавана на 4 саж. ў квадрат на дрэва. Паміж радамі пасаджаны ягадныя кусты, як маліна, парэчкі і смародзіна. Акрамя гэтага для земляніцы адведзена асобнае месца ў ліку 30 кв. саж. У азначаны вучастак 1 дзес. ўваходзіць ¼ сенажаці, якая добра даглядаецца і з шматгадовае практыкі, кожную восень робіць прыпарку бульбянікам і з двух укосаў атрымлівае з гэтага вучастку 120 п. сена, што ў пераводзе раўняецца 72 руб., па рыначнай каштоўнасьці.

Зямля між садам таксама ня пустуе, а арэцца, на якой кожны год засяюцца розныя культуры. У гаспадарцы маецца 1 карова. Вядома, што гною малавата, а таму ў яго існуе 2 ямы у якіх прыгатаўляецца ўгнаеньне з рознага мусару, перамешанага з зямлёй, а таксама

курыным і чалавечым памётам, пасьля гадовага перагною атрымліваецца досыць каштоўнае ўгнаеньне, якое галоўным чынам ужываецца на падкладку пад дрэвы і ягадныя кусты.

Для ўгнаеньня служыць і попел, якога за зіму зьбіраецца пудоў 25 (апал тарфяны).

Уся гэта праца па здабываньню ўгнаеньня і ўмелага скарыстаньня дае добрыя вынікі.

Ураджай, які атрымаўся з азначанага вучастку, малюецца ў наступных рысах: бульбай было засаджана ⅛ дзес. і сабрана 300 пуд. па цане 35 кап. за пуд.—105 руб.

Акрамя гэтага летам утаргаваў за ягады 40 руб. і сад даў прыбаўку 85 руб.

Такім чынам, агульная даходнасьць 1 дзес. выражаецца ў суме 447 руб. 60 кап. Далей Хмялеўскі кажа, што на будучы год будзе праводзіць вопыты з тарфяным угнаеньнем.

У гэтым годзе закладзен пітомнік для садовых дрэў, мэта якога пашырыць добрага гатунку садовыя дрэвы сярод насельніцтва, як ігруша «Дзюшэс», якіх на Беларусі не сустракаецца, плады ад якіх у гэтым годзе цаніліся летам да 4 р. 50 к. за пуд.

Цяпер Хмялеўскаму 54 гады. Выпісвае наступную літэратуру: «Сам себе агроном», «Беларускую Вёску», «Плуг», «Беднату», «Крестьянскую газету» і «Бязбожнік». Яго маленькая гаспадарка зьяўляецца лепшым агітатарам апракультуры ў вёсцы. Шмат насельніцтва зьвяртаецца к яму па розных пытаньнях сельскай гаспадаркі, на якія даюцца сталыя адказы.

У 1925 годзе Хмялеўскі вёў працу сярод беднаты па зямляўпарадкаваньню.

Кураводзтва, кармленьне каровы вядзецца таксама паказальна, што дае насельніцтву прыклад разьвядзеньня курэй і правільнага кармленьня жывёлы.

**Настаўнік П. Лабус.**

---

# Аб пашыраньні с.-г. тэхнічных ведаў у вёсцы.

Сельская гаспадарка зараз патрабуе ад селяніна ўсё большага і большага знаёмства з с.-г. машынамі і прыладамі. Для пасьпяховай працы машын у сялянскай гаспадарцы, патрэбна шырокае распаўсюджваньне сельска-гаспадарчых тэхнічных ведаў.

Пытаньне гэта не атрымала яшчэ жыцьцёвага вырашэньня, а між тым яно стаіць вельмі востра ў вёсцы. Селянін-земляроб амаль зусім ня ведае, як абыходзіцца з земляробскімі машынамі, як з імі працаваць і рэмонтаваць. А бяз гэтых ведаў машыны хутка выходзяць з работы. Самая маленькая порча або паломка ў машыне, калі яна не знаёма селяніну, служыць вялікую перашкодаю. А, вядома, тэхнікамашыністага пад рукамі няма. Трэба ехаць за 15-30 вёрст і везьці з сабою машыну; там пакідаць яе на тыдзень, пакуль паправіць майстар, і зноў ехаць за ёю, трацячы вельмі дарагі час. А каб гэтага ня было, кожны селянін павінен сам ведаць устройства свае машыны.

А лепшым спосабам дзеля пашырэньня с.-г. тэхнічных ведаў будуць курсы. Іменна гэта спосаб можа даць сялянскім масам неабходныя веды па с.-г. тэхнічных ведах. Загэтым трэба падумаць аб адчыненьні курсаў с.-г. тэхнічнага характару. Коопэратывы і ўсе грамадзкія організацыі павінны дапамагчы адчыненьню гэтых курсаў. На курсы сродкаў пойдзе мала, а карысьць ад іх будзе вялікая. Машына, якая цяпер служыць машыннаму т-ву ці гаспадару 5-10 гадоў, будзе служыць у 2-3 разы больш, раз каля яе ўмела хадзіць.

Бяз тэхнічных ведаў—селянін як бяз рук.

Сел. **А. Карнейчык.**

---

# С.-Г. ХРОНІКА.

**Племяныя авечкі.** Зараз закуплена і прывезена ў БССР 134 шт. мяса-шэрсных авечак Усходня-прускіх заводаў (з іх 45 бараноў). Увесь племяны матар'ял ужо разьмеркаваны паміж новымі племаўчарнямі (Віцебская, Аршанская, Магілеўская і Бабруйская акр.). Большасьць бараноў пастаўлена на злучныя пункты каля гэтых аўчарань.

**Першая спроба адкормкі сьвіней на бэкон.** Беларуская агранамічная станцыя закончвае адкорм на бэкон першую партыю ў 36 шт. сьвінога маладняка, якую адправіць на Ленінградзкую бэконную фабрыку для праверкі наколькі ўдаўся адкорм экспортнай сьвініны пры значнай дачы бульбы.

**Яйцы пародзістых курэй** можна выпісаць праз Менскае птушкаводнае таварыства (Адрас: Белсельбанк, казначэю т-ва т. Голуб П. П.).

*Цана за 10 шт.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Родайланд (цёмна-жоўтыя) | 3 руб. | Мінорка (чорныя) . . | 2 руб. |
| Плімутрок (шэрыя) . . | 3 „ | Гусей эндэмскіх . . | 4 „ |

*У Белсельтресце.*

**Мінэральныя ўгнаеньні для савецкіх гаспадарак.** У бягучым годзе Белсельтрэстам закуплена 50.000 пуд. мінэральных угнаеньняў (фасфарытнай мукі 30 тыс. пуд., супэрфосфату 5 тыс. пуд., тамасаўкі 10 тыс. пуд., касьцяной мукі 4 т. п. і калійнай солі і т. п.).

Большасьць угнаеньняў прыпадае на Менскую, Аршанскую і Слуцкую акр.

Апрача таго, на мясцох самі гаспадаркі закупалі да 10 т. пуд. мінэральных гнаёў. У сярэднім на 1 дзес. пахаці прыпадае да 2 п. угнаеньня.

**Праца трактараў.** У мінулым годзе ў Саўхозах працавала 53 трактары. У гэтым годзе ёсьць 63 трактары.

Трактары ўжо працавалі два гады. У сярэднім трактар працуе ў сэзон 120 дзён, або выкарыстоўваецца на 80 проц.

Праца трактараў ў дзень абыходзіцца да 13 р., калі лічыць усе выдаткі; дзесяціна ворыва трактарам каштуе каля 7 руб.

**Здабываньне торфу.** У бягучым годзе Белсельтрэст мяркуе здабыць да 7.000 куб. торфу галоўным чынам на апал тэхнічных прадпрыемстваў (бравароў, крухмальняў, млыноў).

Распрацоўка торфу будзе весьціся машынамі. Амаль усе саўхозы будуць здабываць торф на апал.

**Снабжэньне мэліорацыйных т-в трактарамі.** На 1927 г. для Беларусі адпускаецца 32 трактара. Разьмеркаваньне трактараў паміж карыстацелямі робіцца Кіраўмэліаземем НКЗ. У першую чаргу здавальняюць мэліорацыйныя т-ва. Каб атрымаць трактар, трэба падаць заяву ў АКРЗА і ўнясьці задатак Акруговаму Аддзяленьню Цэнтраземсклада.

Пакуль што трактары размеркаваны так: 6 трактараў для Кіраўмэліазема, 10 трактараў для Белсельсаюза і 16 для мэліорацыйных т-ваў.

Цана трактара каля 1700 руб. На пакупку трактара можна палучыць крэдыт з надзвычайнага бюджэту на тэрмін да 10 гадоў на 4%.

**Аб падрыхтоўцы трактарыстаў.** Для забясьпечаньня мэліорацыйных т-ваў тэнікамі, якія ўмелі-б кіраваць і працаваць на трактары, Кіраўмэліозем адчыніў курсы. На курсы прымаюцца выключна члены мэліорацыйных т-ваў, па аднаму чалавеку ад т-ва, калі яно мае трактар. Камандыроўка на курсы робіцца праз АКРЗА. Курсантам за час знаходжэньня на курсах выдаецца стыпендзія ў разьмеры, 35 р. і 5 р. кватэрных на месяц. Акрмя гэтага аплачваецца праезд ад акругі да Менску і назад. Працяг курсаў 2 месяцы.

**Насеньне для штучных сенажацяй.** Для закладкі штучных сенажацяй на асушаных мэліорацыйнымі т-вамі тарфяніках па заданьню Кіраўмэліазема Цэнтраземскладам загатоўлена рознае насеньне. З загатоўленага насеньня можна складаць такія мешаніны траў:

1. Для карыстаньня травою 2-3 гады.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Канюшыны чырвонай | 40 | 25 | 15 |
| 2) Шведзкай канюш. . | — | 10 | 15 |
| 3) Цімафейкі . . . . | 20 | 25 | 25 |
| Усяго . . | 60 фун. | 60 фун. | 55 фун. |

2. Для карыстаньня да 4 гадоў.

| | |
|---|---|
| 1) Чырвойнай канюшыны | —10 фун. |
| 2) Швэдзкай „ | —10 „ |
| 3) Цімафейкі . . . . . | —15 „ |
| 4) Купкоўскі . . . . . | —15 „ |
| 5) Мурожніцы . . . . | —50 „ |
| Усяго . . | 65 фун. |

Выданьне Наркамзему.

Адк. рэд Зьм. Прышчэпаў.

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*



# ЗЬМЕСТ.